24 студзеня 2020 | № 3 (662)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Калі Штаты былі «сухія»

Стар. 9

**4** **БЕЛАРУСКАЯ МАДЭЛЬ ПРАЦЯГВАЕ ПЛЫЦЬ СУПРАЦЬ ПЛЫНІ**

**Калі за нулявыя гады сярэднегадавыя тэмпы росту ВУП склалі 7,4%, то за дзясятыя — толькі 1,1%. Якая ж высновa на афіцыйным узроўні была зроблена з гэтай невясёлай статыстыкі?**

**5 – 8**



**ЭКАНАМІЧНАЯ БЕЛАРУСЬ**

**10** **ПЛАН БЕЛАРУСІЗАЦЫІ, ЯКІ ЗГАРНУЎ ЛУКАШЭНКА**

**«Закон аб мовах у Беларускай ССР», паводле якога беларуская мова стала адзінай дзяржаўнай у нашай краіне, быў прыняты 30 гадоў таму**

**11** **ЯК ПАМЕЖНІКІ КАП ЗБЕРАГАЛІ ГІСТАРЫЧНУЮ СПАДЧЫНУ**

**Камандзірам стражніц рэкамендавалася праводзіць заняткі, на якіх, акрамя гісторыі і культуры, расказвалася б пра захаванне гістарычнай спадчыны**

# Усё толькі пачынаецца



Сяргей ПУЛЬША

**«Ну што, усё? Паглынання Беларусі не будзе!» — сказаў, звяртаючыся да мяне, адзін разумны, падаецца, калега. Маўляў, Пуцін вырашыў праблему «2024» — падаўжэння сваёй улады ў Расіі, — праз змены ў расійскую Канстытуцыю.**




Фота www.svaboda.org

Пуцін у выніку стане старшынёй Дзяржсавета Расіі, Мядзведзеў — намеснікам Савета бяспекі, а сцэнар падаўжэння прэзідэнцкіх паўнамоцтваў праз паглынанне Беларусі шляхам «паглыбленай інтэграцыі», як мінімум, адкладаецца.

Такое меркаванне — кшталту: «Ух, пранесла!» — ёсць у пэўнай часткі беларускага грамадства. Але вельмі цікава, з чаго гэтае меркаванне ўзнікла? Чаму людзі думаюць, што, калі Пуцін стане старшынёй Дзяржсавета, а ў Крамлі на вышэйшай дзяржаўнай пасадзе апынецца нехта іншы, — Беларусі больш не пагражае інкарпарацыя? Чаму мы думаем, што план «паглыбленай інтэграцыі» некуды знікне, распусціцца ў тумане? З чаго такія дзіўныя высновы?

Канешне, ініцыяваныя Пуціным змены ў Канстытуцыю вельмі падобныя на сцэнар Казахстана. У Расіі, калі гэтыя змены будуць прынятыя, паслабіцца роля «цэнтру» і кіраўніка дзяржавы. Можа, будзе абмежаваны тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта (больш ніхто не праверне схему з «зіц-прэзідэнтам Мядзведзевым»), Дзяржсавет Расіі атрымае большую вагу. Рэальная ўлада, кантроль за сілавікамі і фінансамі ўсё роўна застанецца за Пуціным. Расія скасуе прынцып вяршэнства міжнароднага права над нацыянальным.

Па-першае, сцэнар — на тое і сцэнар, што можа мець элементы імправізацыі. Падабенства са сцэнарам Казахстана яшчэ ні пра што не кажа. А што калі Пуцін захоча быць і старшынёй Дзяржсавета, і кіраўніком краіны адначасова? А раптам гэта будзе не казахскі, а беларускі сцэнар? Калі ў 1996-м Лукашэнка перапісаў Канстытуцыю і, — немаведама з чаго, — пачаў новы адлік свайго тэрміну на галоўнай выбарнай пасадзе. То-бок, пачаў лічыць «пяцігодку» свайго тэрміну не ад абрання ў 1994-м, а з моманту зменаў Канстытуцыі ў 1996-м. Што перашкаджае Пуціну пайсці па шляху Аляксандра Рыгоравіча, а не Нурсултана Абішавіча?

Па-другое, дарожныя карты «паглыбленай інтэграцыі» нікуды не падзеліся. Дарэчы, грамадства іх па-ранейшаму не бачыла і не ведае, што ў іх, — насуперак абяцанням нашых вышэйшых чыноўнікаў апрылюдніць гэтыя карты пасля ўзгаднення іх кіраўнікамі дзяржаў. Мы ведаем толькі, што гэтыя карты ўзгодненыя, і чуем шмат запэўніванняў пра тое, што яны «не нясуць пагрозы незалежнасці». А потым раптам выплывае 31-я дарожная карта, якая прадугледжвае стварэнне наднацыянальных органаў улады і ўвядзенне адзінай валюты Саюзнай дзяржавы.

Нішто не кажа пра тое, што працу над гэтымі дарожнымі картамі падвесяць на замарозку. А нават калі і так — праект Саюзнай дзяржавы не турбаваў нас 20 гадоў, і ў мінулым годзе раптам «стрэліў» вельмі небяспечнымі для нашых суверэнітэту і дзяржаўнасці момантамі. Так што, у якім бы стане ні была справа з гэтымі дакументамі, скідаць іх з разліку не варта.

І ўжо, канешне, мы не можам прадказаць, што стрэліць у галаву кіраўніцтву Расіі заўтра і хто будзе пераемнікам Пуціна на пасадзе кіраўніка нашага «стратэгічнага партнёра». Але адно можна сказаць з упэўненасцю — хто б ім ні быў, нічога вясёлкавага для Беларусі гэта не прынясе.

Проста таму, што Расія — гэта імперыя, абцяжараная вялікадзяржаўніцкім комплексам. І хто б ні прыйшоў да ўлады ў Расіі, ён наўрад ці здолее перамагчы гэты імперскі комплекс. Нават калі да ўлады прыйдзе любы нам дэмакрат Навальны — ці адмовіцца ён ад інтэграцыйных праектаў? Мінімум, што ён бы зрабіў, — гэта «пакінуў усё, як было». У Беларусі і Расіі, па яго меркаванні, «цудоўныя ўзаемаадносіны, міжнародны гандаль, усе задаволеныя і шчаслівыя, проста не трэба рабіць нічога — і ўсё будзе добра» (так ён сказаў на Форуме Барыса Нямцова ў Варшаве 9–10 кастрычніка мінулага года). Але ці задавальняе нас — Беларусь, — тое, што ёсць?

Наўрад ці Навальны як палітык-папуліст здолее стрымаць (і ўвогуле будзе стрымліваць) вялікадзяржаўніцкія памкненні. Хутчэй, ён скажа: «Зробім Расію зноў вялікай!» І працягне гэта рабіць — так, як тое разумее логіка імперскасці. А гэта нічога добрага нам не прынясе.

Прычым Навальны — «самы дэмакратычны дэмакрат» Расіі. Што ўжо казаць пра іншых?

Тым больш, што ў новай Канстытуцыі Расіі будзе замацаваны прынцып вяршэнства нацыянальнага права над міжнародным. Гэта азначае, што нават такія кволыя дакументы пра нашу незалежнасць, як Будапешцкі мемарандум і іншыя гарантыі нашага суверэнітэту з боку трэціх краін, не будуць мець для Расіі аніякай маральнай і юрыдычнай моцы.

Так што манеўр Пуціна са зменай Канстытуцыі і варыянтам (толькі варыянтам!) падаўжэння сваіх паўнамоцтваў зусім не азначае заканчэнне ціску на Беларусь. Не азначае ён і тое, што Расія адмовілася ад ідэі інкарпарацыі Сінявокай. А значыць — барацьба за незалежнасць павінна працягвацца. Усё толькі пачынаецца!

# ЗША могуць абмежаваць уезд грамадзянам Беларусі

НЧ

**Прэзідэнт ЗША Дональд Трамп ужо ў панядзелак мае намер пашырыць забарону на ўезд для краін з пераважным мусульманскім насельніцтвам. Спіс яшчэ канчаткова не зацверджаны, але ўжо вядома, што абмежаванні разглядаюцца ў адносінах М'янмы, Эрытрэі, Кыргызстана, Нігерыі, Судана, Танзаніі і, як ні дзіўна, Беларусі.**

Праект, які разглядаецца адміністрацыяй Трампа, накладзе іміграцыйныя абмежаванні на дадатковыя сем краін, але не абавязкова цалкам забароніць усім грамадзянам гэтых краін уезд у Злучаныя Штаты. Абмежаванні могуць прымяняцца толькі да пэўных дзяржаўных чыноўнікаў ці да пэўных тыпаў візаў.

Тым не менш, любыя новыя абмежаванні могуць абвастрыць сувязі з пацярпелымі краінамі, некаторыя з якіх дапамагаюць ЗША ў такіх пытаннях, як барацьба з тэрарызмам.

Трамп пацвердзіў у аўторак у інтэрв'ю The Wall Street Journal з Давоса, што ён спрабуе дадаць дадатковыя краіны да забароны на паездкі, але адмовіўся пералічыць краіны.

Афіцыйны прадстаўнік Белага дома Хоган Гідлі адмовіўся пацвердзіць якія-небудзь падрабязнасці пра планы па пашырэнні забароны на паездкі. «Забарона на паездкі была надзвычай паспяховай у абароне нашай краіны і павышэнні базавага ўзроўню бяспекі ва ўсім свеце», — сказаў ён.

Трамп падпісаў першапачатковую забарону на паездкі 27 студзеня 2017 года. Тады было адмоўлена ў візах грамадзянам сямі краін з пераважным мусульманскім насельніцтвам, аднак пазней спіс быў зменены, паколькі прайшоў шэраг судовых разглядаў.

Цяпер уезд у ЗША абмежаваны для некаторых грамадзян з Ірана, Лівіі, Самалі, Сірыі і Емена, а таксама з Венесуэлы і Паўночнай Карэі. Чад быў выдалены з першапачатковага спісу.

Між тым, Беларусь зноў з'явілася ў раскладзе візітаў дзяржаўнага сакратара ЗША Майка Пампеа. Плануецца, што ён 29–30 студзеня наведае Лондан, пасля будзе ў Кіеве 30 студзеня, і 1 лютага прыедзе ў Мінск, дзе будзе менш за дзень. 1–2 лютага Пампеа паляціць у Нур-Султан.

# Хіба цяпер у нас лёгкі час?

Дзмітрый РАСТАЕЎ

**Што робіць нармальны разважлівы чалавек, калі надыходзяць цяжкія часы? Правільны адказ: уключае галаву. Таму што цяжкі час — гэта не толькі выклікі, але і магчымасці.**

Чалавек разважлівы, калі сутыкаецца з цяжкасцямі, не проста шукае спосаб іх пераадолення, але і аналізуе прычыны, якія прывялі да іх. Калі гэтага не зрабіць, цяжкасці будуць паўтарацца зноў і зноў. Калі зрабіць — з'явіцца шанец пазбавіцца ад іх раз і назаўжды ды падняцца яшчэ на адну прыступку ў сваім развіцці.

Гэтае правіла справядлівае не толькі для асобных індывідаў, але і для народаў. Гісторыя ведае нямала выпадкаў, калі цэлыя краіны выходзілі з бедстваў абноўленымі і па-сапраўднаму магутнымі — дзякуючы таму, што ў цяжкі момант імі кіравалі разважлівыя людзі.

Тут можна ўспомніць і Паўднёвую Карэю, і Японію, і Аргенціну, і Турцыю. Можна прыгадаць і ЗША часоў Вялікай дэпрэсіі. Усе яны не проста пераадолелі цяжкія часы, якіх, дарэчы, у гісторыі іх было нямала, але, дзякуючы разумным дзеянням сваіх кіраўнікоў, выйшлі з іх сапраўды новымі краінамі.

Іншая справа — Беларусь. «Не дай Бог нейкія цяжкія часы», — заявіў надоечы гарант айчыннай стабільнасці, і тут я з ім цалкам згодны. Для Беларусі з яе нязменным кіраўніцтвам любы цяжкі час — гэта і сапраўды не дай Бог. Гэта стопрацэнтны мінус, без усялякага шанцу на развіццё.

Колькі ўжо было гэтых цяжкіх часоў — хаця б з аднаго з іх мы выйшлі абноўленымі і па-сапраўднаму магутнымі? Ды не, усё такія ж «моцныя і квітнеючыя», енчым па свеце пра газ, нафту і крэдыты. Таму што пры любых цяжкасцях наша ўлада ўключае што заўгодна, толькі не галаву. А калі ўключае галаву, дык выключна для вырашэння адной стратэгічнай задачы — як утрымаць сябе, любімую.

Вось і цяпер, разважаючы пра цяжкія часы, гарант заявіў, што калі яны наступяць, «нам спатрэбяцца і прафсаюзы, і камсамол». Пытаецца, чым могуць дапамагчы ў цяжкі час арганізацыі, якія з'яўляюцца, па сутнасці, часткай рэжыму, дапаможнымі рычагамі яго рэпрэсіўнай машыны? Адным: трымаць народ, што церпіць бедства, у яшчэ большых цуглях. Каб той не пераўзбудзіўся пад прыгнётам цяжкасцяў, і не знішчыў гэтую ўладу дашчэнту.

Гэта азначае, што ў цяжкую часіну беларускія ўлады, што спавядаюць выключна старое мысленне, будуць усё гэтак жа ўключаць не галаву, а рэпрэсіі.

І тут толькі адно пытанне: а што, хіба цяпер у нас лёгкі час? Траціна беларусаў атрымлівае менш за 200 долараў заробку, 85% менш за 400 долараў — гэта што, не цяжкія часы? 2,6 мільёна чалавек не могуць набыць самае неабходнае — і што, жыць стала лягчэй, жыць стала весялей?

Ды мы ўжо шмат гадоў не вылазім з цяжкіх часоў! Папросту «прыцярпеліся» па старой нацыянальнай традыцыі. Але калі аднойчы ўсё ж такі дапячэ, ніякія «прафсаюзы і камсамол» нас не ўтрымаюць. У «камсамоле» і прафсаюзах таксама людзі, таксама беларусы — таксама з тых 85%, а можа, нават і з 2,6 мільёнаў.

**Паводле gazetaby.com**
**Пераклад НЧ**

# Асуджанаму на смерць дазволяць сустрэцца са святаром

**Сястра асуджаных да смяротнага пакарання Ганна Косцева змагла 21 студзеня сустрэцца з братамі ў магілёўскай турме.**

Ганна сустрэлася 21 студзеня са сваімі братамі, 21-гадовым Іллём і 19-гадовым Стасам Косцевымі, якіх суд Магілёўскай вобласці прысудзіў да выключнай меры пакарання. Каб трапіць на спатканне, ёй давялося прыехаць у Магілёў а 4-й раніцы. Паводле яе словаў, яна вымушаная была пераехаць у іншы горад, паколькі з Чэрыкава яе літаральна выжылі абразамі і пагрозамі.

«Удалося пагутарыць з імі праз шкло і тэлефонную трубку. Праўда, у трубцы вельмі часта адключалі гук. Сядзяць яны ў розных адзіночных камерах, Ілля сказаў, што ў яго халоднае памяшканне. А ў цэлым нібыта ўсё нармальна. На ўмовы ўтрымання не скардзіліся», — распавяла Ганна.

Пры гэтым яна адзначыла, што ўтрымліваюць іх у вельмі жорсткіх умовах. Але ёсць і поспехі — начальнік магілёўскай турмы паабяцаў, што да Стаса дапусцяць святара. Па словах Ганны, для яе брата гэта важна: «У Стаса было шмат абразкоў. Калі яго адправілі ў магілёўскую турму, іх забралі. Да свайго бацюшкі прывязаны ён вельмі моцна, падчас следства прывязаўся. Паабяцалі, што да Стаса яго дапусцяць».

Як распавяла сястра, у магілёўскай турме Косцевых могуць пратрымаць да двух месяцаў.

Магілёўскі абласны суд 10 студзеня на выязным пасяджэнні ў Чэрыкаве абвясціў прысуд двум мясцовым жыхарам за забойства 47-гадовай настаўніцы Наталлі Кастрыцы. Па дадзеных следства, у Станіслава і Іллі Косцевых быў канфлікт з Наталляй Кастрыцай з-за сястры. Настаўніца паскардзілася ў міліцыю на тое, што сваячка Косцевых не выконвае свае бацькоўскія абавязкі ў адносінах да свайго малалетняга дзіцяці. Сям'ю сястры паставілі на ўлік, як тую, што знаходзіцца ў сацыяльна небяспечным становішчы.

10 красавіка 2019 года Станіслаў і Ілля пасля сумеснага алкагольнага застолля прыйшлі «разабрацца» з Кастрыцай, якая жыла па суседстве. У выніку браты нанеслі больш за 100 нажавых раненняў, ад якіх жанчына памірала працяглы час. Каб схаваць сляды злачынства, Косцевы падпалілі дом забітай. Ратавальнікі, якія прыбылі на месца, выявілі, што на целе Кастрыцы меліся шматлікія раненні. Братоў хутка затрымалі.

У ходзе следства і суда яны прызналі сваю віну і заявілі, што раскайваюцца ў зробленым. Нягледзячы на гэта, суддзя Міхаіл Мельнікаў прысудзіў іх да расстрэлу.

**Паводле mspring.online**

# Актывіст прыкаваў сябе ланцугом у гродзенскім судзе

**У Гродзенскім абласным судзе 21 студзеня адбыўся разгляд скаргі Мікалая Саляніка, якога суд Кастрычніцкага раёна Гродна абвінавацілі ў арганізацыі і ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі «За Незалежнасць» 15 снежня, калі гродзенцы выйшлі пратэставаць супраць паглыбленай інтэграцыі з Расіяй.**




Фота www.spring96.org

Мікалай Салянік накінуў на сябе бела-чырвона-белы сцяг, прычапіў на плечы партрэт Лукашэнкі і прыкаваў сябе ланцугом да стойкі ў зале суда. Актывіст заявіў, што абвяшчае галадоўку і не сыдзе, пакуль не даможацца справядлівага суда.

Таксама Мікалай Салянік прынёс дакументы пра сваіх загінулых у вайну сваякоў і заявіў, што яны загінулі за незалежнасць краіны, аддалі свае жыцці, спадзеючыся, што нашчадкі будуць жыць лепш. Але цяпер яго, нашчадка тых герояў, судзяць за тое, што ён выступіў за незалежнасць роднай краіны, выконваючы тым самым свой канстытуцыйны абавязак.

Суддзя Ігар Собалеў, у якога гэта быў першы разгляд касацыйнай скаргі над грамадска-палітычнымі актывістамі, спытаў, што ў Саляніка на шыі. Пачуўшы адказ, што гэта ланцуг, якім актывіст прыкаваў сябе ў знак пратэсту, суддзя абвясціў перапынак і пакінуў залу. Пасля ён вырашыў правесці разгляд скаргі без Саляніка і перайшоў у іншае памяшканне. А супрацоўніка міліцыі капітана Яўгена Хонцара папрасіў вывесці Саляніка з будынку суда.

У другой зале Собалеў вельмі хутка правёў працэс, не задаволіў скаргу Саляніка, пакінуў без зменаў рашэнне Кастрычніцкага суда Гродна, які прысудзіў актывіста да штрафу ў 45 базавых велічыняў (1147,5 рубля).

Галоўныя падзеі разгорталіся ў іншым месцы. Спачатку Саляніка вывелі з судовай залы разам са стойкай, да якой той сябе прыкаваў. Пасля выклікалі нарад МНС, які не адважваўся да закрыцця суда, да 18 гадзін, зайсці туды і стаяў пад вокнамі. МНСаўцы казалі, што ў іх загад раскаваць Саляніка пасля 18-ці — напэўна, чакалі, калі будынак ачысціцца ад журналістаў і грамадскіх актывістаў, якія прыйшлі падтрымаць Саляніка.

Калі Саляніку стала кепска, і давялося выклікаць хуткую, МНСаўцы перакусілі прыладамі ланцуг. Мікалай Салянік — сардэчнік і мае другую групу інваліднасці. Хуткая прыехала, медыкі збілі Саляніку ціск і хацелі адвезці ў шпіталь. Той адмовіўся, і медыкі яго не забралі. Затое забралі людзі ў чорным з маскамі на тварах. Яны выскачылі з дзвярэй у будынку суда, схапілі Саляніка і звалаклі таго ў невядомым кірунку.

Пазней родныя Саляніка паведамілі, што на актывіста склалі паперы аб адміністрацыйным правапарушэнні, якое выявілася ў дробным хуліганстве.

Праваабаронца Віктар Сазонаў, каментуючы Беларускаму Радыё Рацыя здарэнне, адзначыў: «Не зразумела і крыўдна, чаму яго судзяць, калі ён выйшаў змагацца за тое, за што загінулі яго продкі, — за незалежнасць краіны. Салянік пайшоў на крайнія рэчы, пайшоў на пратэстныя рэчы — ён прыкаваў сябе ланцугом да бар'ернай стойкі, і ён абвешаў сябе рознай атрыбутыкай. Усё гэта, безумоўна, зроблена для таго, каб прыцягнуць увагу да гэтага абсурду, які робіцца з судом, і каб людзі звярнулі на гэта ўвагу, каб звярнулі на гэта ўвагу суддзі, каб звярнулі на гэта ўвагу сілавікі, якія прымаюць удзел у затрыманні».

**Паводле spring96.org**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Саскочыць з «іголкі»

Сяргей САЛАЎЁЎ

**«Можам, калі захочам!» — прыкладна такі дэвіз павінен стаць праграмай дзеяння нашага ўраду бліжэйшым часам. Таму што, насамрэч, можам мы ўсё, калі нас прыцісне. Але галоўнае — не чакаць, калі прыцісне. Каб мы не разлічвалі папярэднія 20 гадоў на танную расійскую нафту, то не апынуліся б у такой сітуацыі, калі ўсё трэба вырашаць тэрмінова.**



Увогуле, навіны з «нафтавага фронту» ў нас даволі цікавыя. І чым далей развіваецца гэты крызіс, тым больш мы даведваемся таго, чаго раней не ведалі. Напрыклад, насуперак змрочным прагнозам, што «без расійскай нафты нам труба», ніякай трубы не будзе. Беларусь будзе забяспечаная палівам — прынамсі, для ўласных патрэбаў. Як паведаміў старшыня канцэрну «Белнафтахім» Андрэй Рыбакоў, для забеспячэння ўнутранага рынку Беларусі хапае 80-працэнтнай загрузкі аднаго нафтаперапрацоўчага завода. А ў нас іх два. Таму больш як 70 працэнтаў нафтапрадуктаў краіна экспартуе.

Мы амаль можам супакоіцца. Без паліва Сінявокая не застанецца, і, мажліва, пасяўная пройдзе, як звычайна. Але на ўсялякі выпадак «рэжым эканоміі» ўключыць усё ж варта.

Таксама цікавыя рэчы высветліліся на тыдні, калі Расія і Беларусь прыпынілі перамовы па ўзгадненні памеру тарыфу на транзіт нафты па нафтаправодзе «Дружба» праз Беларусь. У гэтым няма нічога страшнага — проста бакі ўзялі паўзу, бо з 1 лютага стаўка транзіту будзе павышаная аўтаматычна, паводле міжурадавага пагаднення. Павышэнне складзе на прагнозны памер інфляцыі 3,8 працэнта плюс 3 працэнты. А потым перамовы працягнуцца — Мінск патрабуе павышэння тарыфу на 2020 год на 16,6 працэнта.

Ёсць яшчэ адна прычына зацягвання перамоваў, піша расійскі «Коммерсантъ». Яна палягае ў тым, што «бессэнсоўна абмяркоўваць кошт транзіту да тых часоў, пакуль не вядомыя дакладныя аб'ёмы, якія пойдуць праз рэспубліку», кажа адна з крыніц выдання. Гэта шмат у чым залежыць ад вынікаў перамоваў Беларусі з расійскімі нафтакампаніямі наконт умоваў пастаўкі нафты. Нафтакампаніі настойваюць на прэміі ў 6 долараў на тону да экспартнага парытэту, у той час як Мінск настойвае на адмове ад прэміі ўвогуле. Прычым, для нафтавых кампаній беларускі кірунак у любым выпадку застанецца прэміяльным і з меншай надбаўкай з улікам нулявога ПДВ. Але самі пастаўшчыкі наракаюць на тое, што цяпер Беларусь і так плаціць толькі 83 працэнты ад рынкавай цаны нафты.

«Толькі 83 працэнты», — цікавае выказванне. Атрымліваецца, наш "гешэфт" складае ўсяго 17 працэнтаў ад сусветнай цаны. Пры гэтым той «гешэфт» абмежаваны рознымі ўмовамі, такімі, як «братэрскі» (а не еўрапейскі) кошт транзіту нафты, тая ж «прэмія» расійскім пастаўшчыкам ды абавязальніцтвы ўзамен на танную (як высветлілася — не вельмі) нафту пастаўляць пэўную частку нафтапрадуктаў на расійскі рынак. Некалі Расія, узамен на льготныя кошты нафты, хацела нават юрыдычна абавязаць Беларусь пастаўляць на свой рынак 1 мільён тон бензіну ў год, нягледзячы на камерцыйную мэтазгоднасць такіх паставак для беларускага боку. Былі часы, калі на гэтых пастаўках нашы кампаніі гублялі да 100 долараў за тону.

Пры гэтым уся нафтавая спрэчка выглядае даволі нягегла — таму што «падатковы манеўр» Расійскай Федэрацыі так ці інакш прадугледжвае, што ў бліжэйшыя гады ўнутраныя расійскія кошты на нафту зраўняюцца з сусветнымі. А таму «таннай нафты» не будзе ўвогуле. Дык чаму б нам не паспрабаваць зрабіць усё цяпер? Справядлівыя сусветныя кошты на нафту для Беларусі? Добра. Але тады — ніякіх «прэмій» расійскім пастаўшчыкам, справядлівыя сусветныя кошты на бензін для Расіі і справядлівыя цэны на транзіт.

Мы хаця б падрыхтуемся да тых умоваў, у якіх будзем працаваць праз тры-чатыры гады.

Нешта падобнае казаў і Аляксандр Рыгоравіч на нарадзе па пытаннях экспарту нафтапрадуктаў. Па яго словах, «трэба ісці да таго, што 30–40 працэнтаў мы будзем купляць нафты ў Расійскай Федэрацыі. Працэнтаў 30 мы павінны з Балтыі завозіць і працэнтаў 30 праз Украіну — правераны ўжо шлях».

«Мы павінны на практыцы паглядзець, у што гэта выльецца. А так браты з усходу палохаюць, што гэта будзе вельмі дорага. Мы таксама, не палічыўшы, не паспрабаваўшы, думаем, што мы не здолеем», — казаў ён пра альтэрнатыўныя пастаўкі нафты. І дадаў тое, пра што мы пісалі неаднаразова: палохацца не трэба, трэба спрабаваць. Тым больш, што мы ўсё роўна вымушаныя будзем гэта рабіць.

І вось дзяржканцэрн «Белнафтахім» паведаміў, што падкантрольная яму Беларуская нафтавая кампанія (БНК) купіла партыю нарвежскай нафты Johan Sverdrup з пастаўкай у літоўскі порт Клайпеда 22 студзеня. З Клайпеды нафта будзе пастаўлена чыгуначным транспартам на Наваполацкі НПЗ, аб'ём партыі складае 80 тысяч тон. Канешне, пастаўка нафты з Клайпеды ў напрамку Наваполацкага НПЗ абыдзецца Беларусі істотна даражэй за імпарт па нафтаправодах — пералавка і транспарціроўка да завода па чыгунцы будуць каштаваць звыш долараў 20 за тону. Але гэта пробная партыя, «а там далей будзем працягваць перамовы», — сказаў «Рэйтэр» прадстаўнік «Белнафтахіма».

Як мы пісалі ў мінулым нумары, праз Літву і Латвію мы можам атрымліваць да 8 мільёнаў тон нафты для нашых заводаў.

І яшчэ цікавостку выдаў кіраўнік Беларусі на той жа нарадзе. «Казахстан зможа пастаўляць нам нафту, калі Расія пагодзіцца з гэтым. Дзіўна: наш саюзнік не дае згоды на пастаўку нафты ад нашага іншага саюзніка. Што ж, такая сітуацыя цяпер па пастаўках нафты, і мы павінны ў гэтым разабрацца», — заявіў Лукашэнка.

Пра што размова — невядома, але, хутчэй за ўсё, пра тое, што Расія не пагадзілася на транзіт казахскай нафты ў Беларусь па трубаправодах. Што ж — тады самы час паставіць крыжык на праекце ЕАЭС. Таму што ўсе «плюшкі», якія Беларусь атрымлівала ад гэтага праекту, зніклі. Дык навошта нам той саюз? І навошта нам «Саюзная дзяржава» з такім «саюзнікам»?

Адзінае пытанне: што будзе рабіць Расія, калі мы ўрэшце саскочым з нафтагазавай «іголкі»? Чым яшчэ яна паспрабуе ўтрымаць Сінявокую ў сваёй «арбіце інтарэсаў»?

Трэба вучыцца жыць сваім розумам у сваім доме. Падаецца, улады пачынаюць гэта разумець, што не можа не ўзрадаваць.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### Дзмітрый Кучук



**Былы першы намеснік старшыні беларускай партыі «Зялёныя» стаў яе кіраўніком на з'ездзе, што адбыўся 19 студзеня ў Мінску.**

Дзмітрый Кучук быў абраны большасцю дэлегатаў з невялікай перавагай галасоў — за яго прагаласавалі 25 дэлегатаў. 23 дэлегаты аддалі свае галасы за чальца савета грамадскага аб'яднання «Экадом» Ірыну Сухій. Папярэдняя старшыня партыі Анастасія Дарафеева сваю кандыдатуру не вылучала.

Кучуку 46 гадоў, у партыі ён з 2008 года. Працуе генеральным дырэктарам сталічнага прадпрыемства па перапрацоўцы адходаў «Смеццесартавальная станцыя "Заходняя"».

Паводле Кучука, у бліжэйшых планах — развіццё рэгіянальных структур партыі. «На з'ездзе была абраная стратэгія — станавіцца больш важкай палітычнай сілай, не падобнай на НДА. Бліжэйшым часам збіраемся выбудоўваць рэгіянальныя структуры, вылучаць больш кандыдатаў у дэпутаты розных узроўняў, зоймемся арганізацыяй офіса як месца для працы, камунікацыі паміж сябрамі партыі», — сказаў Кучук.

Партыя «Зялёныя» прыняла рашэнне не ўдзельнічаць у выбарах адзінага кандыдата ад апазіцыі. «Партыя была супраць, і я як яе старшыня засяроджуся на арганізацыі структуры, каб па ўзроўні арганізацыі мы ўваходзілі ў тройку апазіцыйных партый», — заявіў новы старшыня БПЗ.

### Яраслаў Раманчук



**Прэзідэнт Навукова-даследчага цэнтра Мізеса, выканаўчы дырэктар аналітычнага цэнтра «Стратэгія» не атрымаў тлумачэнняў ад літоўскіх праваахоўнікаў, за што яго ўнеслі ў «чорны спіс» краін Шэнгенскай зоны.**

Раманчук трапіў у «чорны спіс» па прычыне таго, што «ўяўляе пагрозу нацыянальнай бяспецы Літвы». З-за гэтага ён не можа скарыстацца перавагамі Шэнгенскай візы — яму даюць толькі нацыянальную візу краіны, якую ён плануе наведаць. Пра рашэнне літоўцаў Раманчук даведаўся ў другой палове кастрычніка, калі падаў дакументы на атрыманне шэнгенскай візы ў пасольства Літвы ў Мінску.

У пасольстве яму выдалі дакумент, у якім пазначана: адна або некалькі дзяржаў-чальцоў Шэнгенскай зоны лічаць, што Раманчук уяўляе пагрозу для грамадскай палітыкі, унутранай бяспекі, аховы здароўя. Забарона бестэрміновая, рашэнне аб забароне на ўезд прыняло, як растлумачылі эканамісту, МУС Літвы.

Раманчук яшчэ ў лістападзе напісаў лісты ў структуры МУС Літвы і папрасіў патлумачыць рашэнне. Ад Дэпартамента міграцыі МУС Літвы эканаміст атрымаў адказ, у якім сказана, што яго запыт быў афармлены не па правілах. «Такі тыповы бюракратычны пінг-понг, усе як вады ў рот набралі, — кажа Раманчук. — Я напісаў сваім калегам у Інстытут свабоднага рынку, каб яны дапамаглі, а таксама ў Бюро крымінальнай паліцыі Літвы, што займаецца візамі. Таксама вывучаю магчымасць падаць у суд у Літве. Пакуль іншых варыянтаў няма».

### Сяргей Вязовіч



**Беларускі экіпаж каманды «МАЗ-СПОРТаўта» пад кіраўніцтвам Сяргея Вязовіча ўзяў трэцяе месца на ралі-рэйдзе «Дакар–2020», што завяршыўся ў Саудаўскай Аравіі.**

Заключны этап гонкі праходзіў па маршруце Харады — Кідзія, прычым арганізатары вырашылі скараціць працягласць дыстанцыі з 374 да 166 кіламетраў, бо на некаторых яе ўчастках цяпер вядзецца распрацоўка нафтавых свідравін.

Беларус Аляксей Вішнеўскі фінішаваў другім, прайграўшы пераможцу — расіяніну Андрэю Каргінаву ўсяго 2 хвіліны 1 секунду. Галоўнай задачай для Вязовіча было ўтрыманне заваяваных на папярэдніх этапах пазіцый. Таму, выключыўшы непатрэбную рызыку, ён дабраўся да фінішу 17-м.

Для Вязовіча гэта другі поспех за перыяд удзелу ў самым прэстыжным аўтамарафоне — у 2018 годзе ён заняў 2-е месца.

Азбука паліталогіі

# Беларуская мадэль працягвае плыць супраць плыні



Сяргей НІКАЛЮК





**На гарызонце беларускай мадэлі збіраюцца хмары. Чытачоў, якія прызвычаіліся хаця б раз на месяц праглядаць эканамічную статыстыку ад Белстата, такой навіной здзівіць складана. Калі за нулявыя гады сярэднегадавыя тэмпы росту ВУП складалі 7,4%, то за дзясятыя — толькі 1,1%.**

Якая ж выснова на афіцыйным узроўні была зробленая з гэтай невясёлай статыстыкі? На прыёме 11 студзеня, напярэдадні старога Новага года, яе абвясціў адзіны палітык (АП): «Галоўнае — не збаўляць хуткасць і не адхіляцца ад абранага намі шляху. Нас шмат, але Беларусь у нас адна. І гэта простая ісціна ляжыць у аснове дзяржаўнага суверэнітэту і незалежнасці краіны».

Вельмі своечасовая выснова, пагадзіцеся. Хуткасць, калі хто забыўся, нароўні з гнуткасцю і творчасцю ў Пасланні–2013 была аднесеная да трох галоўных патрабаванняў, закліканых прыстасаваць беларускую мадэль «да бурлівых пераменаў» і не даць ёй застацца «на ўзбочыне гісторыі».

Дыфірамбаў на адрас хуткасці было сказана нямала. Прапаную самую яркую цытату: «Скажу шчыра, гэты шалёны рытм, гэты дзікі тэмп, зададзены тэхнагенным светам, у нейкім сэнсе супярэчыць нашаму спакойнаму, гістарычна павольнаму менталітэту. Мы па характары крыху іншыя людзі, чым гэты тэмп. Шалёны тэмп жыцця».

Далей ішла канстатацыя адсутнасці выбару і патрабаванне «мяняцца самім і прыстасоўвацца да імклівага, хуткаснага свету». Не дадзена, маўляў, іншага.

Гісторыя любіць хадзіць па коле, і гэту яе фундаментальную ўласцівасць працей за ўсё праілюстраваць з дапамогай анекдотаў. Для нашага выпадку будзе пасаваць анекдот пра разабраныя рэйкі і цягнік, у якім ехалі Ленін, Сталін, Хрушчоў і Брэжнеў. Каб не стамляць чытачоў, абмяжуюся прапановай Брэжнева: «Таварышы, а навошта нам кудысьці ехаць? Давайце застанемся стаяць, шторкі завесім, а самі будзем вагон разгойдваць і песні вясёлыя спяваць пра тое, як мы хутка імчымся!»

Гэту прапанову Брэжнева можна лёгка працягнуць з дапамогай зусім яшчэ свежага выказвання АП, якое было прыведзенае ў пачатку «Азбукі паліталогіі»: «Галоўнае — не змяншаць хуткасць і не адхіляцца ад абранага намі шляху».

### Не за кошт хуткасці, гнуткасці і творчасці, а шляхам акуклівання

Вар'яцкі рытм супярэчыць нашаму менталітэту. З гэтым не паспрачаешся, але калі ў 2013 годзе гэту супярэчнасць прапаноўвалася пераадолець, то ў 2019-м — дзейнічаць з дакладнасцю да наадварот, гэта значыць, у поўнай адпаведнасці з прапановай Брэжнева.

Не верыце? Тады прапаную звярнуцца да выступлення АП на цырымоніі ўручэння прэміі «За духоўнае адраджэнне» 9 студзеня: «Мы адкрытыя для дружбы і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва, але наш традыцыйны сацыяльна арыентаваны ўклад непахісны. Толькі так, памятаючы, хто мы і ў чым наша ўнікальнасць, захоўваючы сваю ідэнтычнасць і самабытнасць, мы зможам супрацьстаяць ідэі ўніфікацыі свету пад адзіны, чужы нашаму менталітэту ўзор або стандарт».

Нічога новага, нічога незвычайнага ў такіх паводзінах няма. Прыгадаем гісторыю пра лісу і вінаград з байкі Эзопа (620–564 да н. э.): ліса, што не здолела дацягнуцца да вінаграду, абвясціла, што вінаград ёй зусім не патрэбны, паколькі ён яшчэ зялёны.

**У Расіі ўсе рашэнні прымаюцца шляхам асабістых дамоўленасцяў, таму не Расія адмовіла Беларусі ў кампенсацыі за падатковы манёўр, а Пуцін — нашаму адзінаму палітыку**

Пры ўсім знешнім падабенстве з байкай, у заявах АП лёгка ўгледзець і сур'ёзнае адрозненне. Ліса шчыра імкнулася дацягнуцца да вінаграду, але не здолела. АП паспрабаваў, аднак хутка зразумеў, што паспяховая ўніфікацыя са светам нічога добрага ні яму асабіста, ні яго тварэнню — беларускай мадэлі — не нясе. Таму ён і прыняў рашэнне прыстасоўвацца да шалёнага тэмпу жыцця не за кошт хуткасці, гнуткасці і творчасці, а шляхам акуклівання, шляхам захавання сваёй унікальнасці, ідэнтычнасці і самабытнасці.

Прынята лічыць, што гэтак жа ў свой час зрабілі кітайцы, калі адгарадзіліся ад ваяўнічых качэўнікаў Вялікай сцяной. Аднак сцяна — гэта не адзіны прыклад акуклівання. Гісторыя Кітая ведае выдатнага імператара Чжу Гаочы, які ў 1424 годзе загадаў спаліць флот і справаздачы марскіх экспедыцый. Логіка такога незвычайнага рашэння была простая: у Паднябеснай імперыі ёсць усё, што трэба, а таму ад любых кантактаў з навакольным светам нічога, акрамя шкоды, не будзе.

### Згодна з законам унутрывідавой канкурэнцыі

Апошнім часам лексікон АП папоўніла слова «ідэнтычнасць». Не ўпэўнены, што прычынай таму стала кніга амерыканскага палітолага Фрэнсіса Фукуямы «Ідэнтычнасці. Імкненне да прызнання і палітыка непрымання», якая выйшла з друку на рускай мове ў выдавецтве «Альпіна Паблішэр» у снежні 2019 года.

Адкрыем кнігу жывога класіка на стар. 33: «Ідэнтычнасць вырастае перш за ўсё з адрознення паміж сапраўдным унутраным "я" і знешнім светам сацыяльных правілаў і нормаў, якія не прызнаюць і не паважаюць каштоўнасці або вартасці гэтага ўнутранага "я"».

Прамое траплянне — прычым у дзясятку. Чвэрць стагоддзя будаўніцтва беларускай мадэлі — гэта чвэрць стагоддзя непрызнання знешнім светам унутранага «я» яе галоўнага архітэктара. Першапачаткова «палітыку непрымання» дэманстравалі выключна заходнія суседзі Беларусі. Але чалавеку, што сфарміраваўся ва ўмовах іншых сацыяльных правілаў і нормаў, да такой падступнасці было не прывыкаць. Тым больш, што ён лёгка знаходзіў падставы для належных адказаў.

Абмяжуюся адным прыкладам: «Нам няма чаго саромецца за сваю гісторыю. Мы яе павінны свята берагаць. Таму што гэта наш найвялікшы здабытак. Калі нас на Захадзе крытыкуюць — раней больш, цяпер крыху менш, — я ім гавару: вы яшчэ з намі не размыліся за тую апошнюю вайну, якая спароджаная была вамі на нашай тэрыторыі, а мы яшчэ ад той цяжкай вайны за сем дзесяцігоддзяў не аднавіліся; таму акуратней з правамі чалавека, дэмакратыяй і іншай крытыкай, якую мы чуем часам неабгрунтавана ў наш адрас».

Завяршаючы развагі пра важнасць прызнання ў палітыцы, прывяду яшчэ адну цытату, запазычаную з той жа старонкі кнігі Фукуямы: «Самапавага ўзнікае ў выніку павагі іншых». У гэтай сувязі цалкам лагічна будзе сфармуляваць наступнае пытанне: «Ці спрыяе званне "апошні дыктатар Еўропы" росту самапавагі АП?»

Перш, чым паспрабаваць сфармуляваць адказ, неабходна разабрацца са значэннем прыметніка «апошні». Падобна да героя Фенімора Купера, можна быць апошнім з магіканаў, а можна — апошнім у чарзе. У другім выпадку апошнія маюць шанец стаць першымі. Але гэта толькі шанец — і не больш за тое. Не так проста ў XXI стагоддзі апярэдзіць расійскага прэзідэнта Уладзіміра Пуціна ў яго прэтэнзіях на такое ўнікальнае для нашага часу званне.

Здавалася б, паміж «нацыянальнымі лідарамі», чыя сацыялізацыя прайшла ва ўмовах савецкіх правілаў і нормаў, не толькі чорная кошка палітычнага непрымання, але нават мыш і прусак не змаглі б прабегчы. Аднак біёлагам добра вядома, што міжвідавая канкурэнцыя асаблівай вастрыні дасягае ў тых выпадках, калі ўзаемна змагаюцца віды, якія жывуць у падобных экалагічных умовах і якія выкарыстоўваюць аднолькавыя крыніцы харчавання. А гэта якраз наш выпадак.

### Шляхам асабістых дамоўленасцяў

Чарговы канфлікт паміж сузаснавальнікамі Саюзнай дзяржавы працей за ўсё было б апісваць, калі не выходзіць за чырвоныя сцяжкі эканамічных інтарэсаў. За два дзесяцігоддзі саюзнага будаўніцтва мы неаднаразова станавіліся сведкамі спробаў перакідвання нафтагазавых разборак з міждзяржаўнага ўзроўню на ўзровень суб'ектаў гаспадарання. Аднак ні адзінага разу такія спробы не выглядалі пераканаўча.

Пазбавіцца ад матэрыялізму ў яго марксісцкім варыянце не так і проста. Барадаты класік лічыў рухаючай сілай гісторыі матэрыяльную вытворчасць (базіс). Палітычным і ўсім іншым інтарэсам ён адводзіў ролю надбудовы. З сучаснага ж пункту гледжання бліжэй да ісціны быў Гегель, які лічыў, што рухаючай сілай гісторыі чалавецтва з'яўляецца барацьба за прызнанне.

Гледзячы на эмацыйную рэакцыю АП на адмову Масквы ад палітыкі «нафта ў абмен на пацалункі», цяжка не пагадзіцца з Гегелем. Я б не наважыўся сцвярджаць, што ў гэтым няма нічога асабістага. У Расіі, зрэшты, як і ў Беларусі, усе лёсавызначальныя рашэнні прымаюцца шляхам асабістых дамоўленасцяў, таму не Расія адмовіла Беларусі ў кампенсацыі за падатковы манёўр, а Пуцін — нашаму адзінаму палітыку.

***

У 2024 годзе Пуціну трэба будзе вырашаць праблему пралангацыі сваіх уладных паўнамоцтваў, якую немагчыма ажыццявіць без змены Канстытуцыі. Ад спароджанага анексіяй Крыма вобразу мачо да сённяшняга дня засталіся жалю вартыя рэшткі. На думку публіцыста Івана Давыдава, крамлёўскія паліттэхнолагі ўжо прыступілі да стварэння новага іміджу расійскага прэзідэнта: на змену Пуціну-пераможцу ідзе клапатлівы Пуцін, засяроджаны на абароне простага расіяніна ад разнастайных бедаў, што і было прадэманстравана 15 снежня падчас прэзідэнцкага паслання.

Клапатлівы ж Пуцін павінен дбаць пра расіян, а не раздаваць эканамічныя прэферэнцыі направа і налева.

Беларусь Эканамічная

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by

7 КОЛЬКІ МЯСА Ў КАЎБАСАХ?



8 ШЛЯХ У МЯСНЫЯ БАРОНЫ
ЗВЯЗАНЫ З ПЕРАПРАЦОЎКАЙ МЯСА БІЗНЕС – ВЫГАДНАЯ ГАЛІНА

# З бульбаедаў у мясалюбы

Павел КІРЫЛАЎ



Фота www.soglasiesk.ru

**Харчовая перапрацоўчая прамысловасць — адна з самых паспяховых галінаў эканомікі ў Беларусі. Хаця і не беспраблемная. Напрыклад, мы ўваходзім у сусветны Топ-20 краінаў па экспарце мяса, а яго вытворчасць у нас аж удвая большая, чым у суседзяў. Аднак якім коштам?**

### Не рыба, а мяса!

На 99,7% мяса і мясныя прадукты, што прадаюцца ў нашых крамах ды на рынках, — прадукцыя менавіта беларускай вытворчасці. Прычым па ўсіх пазіцыях: ад ялавічыны да курыцы. Для параўнання, беларускай бульбы ў нашых гандлёвых сетках, паводле Нацыянальнага статыстычнага камітэта, толькі 89,8% (дадзеныя за леташняе першае паўгоддзе). Так што бульбаеднай Беларусь можна назваць у меншай ступені, чым мясалюбнай.

Што да іншых папулярных прадуктаў, якія мацуюць нам харчовую бяспеку, то наперадзе тут яйкі: яны на 100% нашы мясцовыя, беларускія. Іншая справа — іх якасць ды натуральнасць. Параўнайце хаця б колеры жаўткоў крамных яек ды вясковых ці фермерскіх — бледна-жоўтыя супраць аранжавых. Але гэта, як і параўнанне мяса курак на вольным выгуле і інкубатарскіх, — асобная тэма. Таксама вельмі «патрыятычны» на нашых крамных прылаўках цукар — на 94,5% ён беларускі ад усяго прадаванага, масла — на 99,9%, мука — на 90,2%. З іншага боку, імпартаваная доля ў продажы садавіны складае 93,2%, алею — 87,7%, рыбы — 82,3%. Так што слоган беларусаў — «Не рыба, а мяса!».

Беларусь у рэгіёне (дакладней, сярод краінаў СНД) першынствуе па вытворчасці бульбы, малака і, як мы ўжо адзначылі вышэй, мяса на душу насельніцтва. На аднаго чалавека ў 2018 годзе прыпала 129 кілаграмаў мяса. Гэта прыкладна ўдвая болей, чым у суседняй Расіі, куды ў асноўным ідзе наш мясны экспарт. У 2010 годзе ў Беларусі вытворчасць свініны, ялавічыны ды мяса птушкі была 102 кілаграмы на душу насельніцтва. Адпаведна, вырасла і пагалоўе ў жывёлагадоўлі.

Што да гаспадарак розных формаў уласнасці, то доля ад усіх кароваў у сельгасарганізацыях складае 95,4%, у фермераў — 0,4%, у дварах насельніцтва — 4,2%. Па свіннях лічбы такія — 87,3%, 0,8% і 11,8% адпаведна. 15 гадоў таму ў прыватных гаспадарках было больш як у два разы болей свінняў — 28,6%. Гэта — вынік вымірання вёскі і наступстваў АЧС (афрыканскай чумы свінняў). Паводле народнай канспіралагічнай версіі, улады разбіраліся з успышкамі эпідэміяў так, каб зменшыць канкурэнцыйную колькасць свінняў у гаспадарках насельніцтва. Затое прыватныя гаспадаркі выйграюць у дзяржавы па колькасці авечак: у сельскагаспадарчых арганізацыях іх доля ад усяго пагалоўя ў Беларусі складае толькі 15%. Што да абласцей, то па вытворчасці мяса ў лідарах — Мінская вобласць. Зрэшты, як па яйках і малаку.

Калі ўзяць агульнае пагалоўе, то ў 2018 годзе ў нашай краіне было 2,8 мільёна свінняў і 1,5 мільёна кароваў, 150 тысяч козаў і 43 тысячы коней, а птушак — 51 мільён галоваў. Зразумела, што гэта пераважна куры і ў меншай ступені —індычкі, качкі ды гусі. Для параўнання: у 2010 годзе статыстыка налічыла 37 мільёнаў галоваў птушак, у 1995-м — 26 мільёнаў. То-бок, рост пагалоўя за часы незалежнасці — амаль у два разы.

А вось кароваў і асабліва свінняў істотна паменела: 25 гадоў таму іх было, адпаведна, 2,1 і 3,8 мільёна галоваў. Выснова на паверхні — у вытворчасці, экспарце і, адпаведна, ва ўнутраным спажыванні мяса прыярытэт усё больш аддаецца кураціне. Прыкіньце і самі: якое мяса вы часцей за ўсё спажываеце апошнім часам ці, дакладней, можаце сабе дазволіць згодна з сямейным бюджэтам?

### Стаўка на кураціну

Перавага курацiны — сусветная тэндэнцыя. Тлумачэнне простае. Вытворчасць курацiны больш рэнтабельная, чым вытворчасць іншых відаў мяса, у сувязі з больш кароткім тэхналагічным цыклам і меншай колькасцю спажытых кармоў. А меншы кошт на гэтае мяса падвышае, у сваю чаргу, спажывецкі попыт. Цяпер у мясной прамысловасці першынства ў птушкі, і менавіта курацiны, прадукаваць якую больш выгадна, чым мяса індычкі, а тым болей качкі ці гусі.

Мясная прамысловасць Беларусі — гэта каля 250 прадпрыемстваў, дзясятая частка з якіх — мясакамбінаты. Доля дзяржавы маецца ва ўсіх, і ў некаторых мясакамбінатах сягае амаль да 100%.

Самыя буйныя прадпрыемствы галіны — Брэсцкі, Гродзенскі, Бярозаўскі, Віцебскі мясакамбінаты, прыватны аграхолдынг «Сервалюкс», які вырабляе трацiну ўсяго беларускага мяса птушкі. Яшчэ адно заўважнае недзяржаўнае прадпрыемства — «Інка-Фуд». Абедзве кампаніі разгарнуліся, набыўшы ў свой час магутнасці шэрагу стратных дзяржаўных птушкагадоўчых фабрык.

Мясакамбінаты працуюць з розным поспехам і дастаткова нестабільна. Чысты прыбытак у розныя гады можа адрознівацца ледзьве не ў разы, але добра, што ён ёсць. «Новы Час» вывучыў бухгалтарскія справаздачы шэрагу мясакамбінатаў за 2018 год.

Напрыклад, Ваўкавыскі мясакамбінат, які прадукуе мяса, каўбасы, вэнджаніну, фаршы, катлеты, пельмені ды варэнікі — усяго 300 найменняў прадукцыі. Доля дзяржавы ў статутным фондзе прадпрыемства — амаль 59%. Чысты прыбытак у 2018 годзе склаў больш за 12 мільёнаў рублёў, на 4 мільёны рублёў былі нават выплачаныя дывідэнды акцыянерам. Але ў 2017-м прыбытак быў істотна большым — 19 мільёнаў. А вось Мінскі мясакамбінат ужо які год запар працуе ў страты. У 2018 годзе яны склалі больш за 6 мільёнаў рублёў, у 2017-м сітуацыя выглядала дрэнна, але лепей — стратаў было больш за 2 мільёны рублёў.

Тым мясакамбінатам, якія трымаюцца на плыву, даюць у нагрузку стратныя «калгасы», а слабыя дзяржава спрабуе рэанімаваць — ручным дырэктыўным спосабам. Яскравы прыклад гэтай з'явы — Барысаўскі мясакамбінат, адно з буйнейшых прадпрыемстваў у аднайменным раёне. З 2012 года яго праца стала стратнай, і на пачатак 2016-га абавязальніцтвы (даўгі) істотна перавысілі актывы.

### Кланіраваны мясакамбінат

Паколькі камбінат забяспечваў працай больш за 2 тысячы чалавек, гэта зрабіла недапушчальным для дзяржавы яго наўпроставае банкруцтва. Каб выканаць задачу, захаваць працоўныя месцы і адначасова вырашыць праблему хранічна стратнага прадпрыемства, мясцовыя ўлады, паводле «Нацыянальнай эканамічнай газеты», якая аналізавала гэты кейс, «вымушаныя былі праявіць цуды эквілібрыстыкі».

Схема сапраўды была правернутая арыгінальная. У жніўні 2016 года была праведзеная рэарганізацыя ААТ «Барысаўскі мясакамбінат», у выніку якой з яго складу ўтварыліся тры новыя арганізацыі — ААТ «Барысаўскі мясакамбінат №1», ААТ «Свінакомплекс Негнавічы» і ААТ «Лошніцкі край». Праз месяц, у верасні 2016 года, само ААТ «Барысаўскі мясакамбінат» з рэшткамі маёмасці і абавязальніцтвамі праз працэдуру рэарганізацыі далучылася да сельскагаспадарчага прадпрыемства ААТ «Забашавічы».

Праз месяц гэтае ААТ «Забашавічы», праз дзіўны збег абставінаў, трапіла ў пастанову Саўміна як прадпрыемства, датычна якога ініцыююць правядзенне працэдуры эканамічнай неплатаздольнасці (або банкруцтва). У выніку ланцужка рэарганізацый са 188,6 мільёна рублёў абавязальніцтваў на нібыта новым мясакамбінаце засталося ўсяго 3 мільёны, астатнія былі скінутыя на прадпрыемствы, якія падлягалі банкруцтву.

І вось сёння Барысаўскі мясакамбінат — не надта, але прыбытковае прадпрыемства. Якое нават выплачвае дывідэнды. І, улічваючы, што дзяржава з'яўляецца акцыянерам са 100-працэнтнай доляй удзелу, уся сума дывідэндаў накіроўваецца ў бюджэт. Цікава, што некалькі гадоў таму да рэарганізацыйна-аздараўляльных пераўтварэнняў на камбінаце мінарытарным акцыянерам (у асноўным, фізічным асобам) у сукупнасці належала 7% акцый. То-бок, яны ў выніку засталіся разам з крэдыторамі дзесьці ў дрэннай гісторыі.

Наступны ў чарзе на рэанімацыю — Аршанскі мясакамбінат. Працэс пад кантролем самога кіраўніка краіны. Бо, нагадаем, Аршанскі раён улады развіваюць па адмысловай праграме, якая потым павінна стаць прыкладам для астатніх раёнаў Беларусі. Аляксандр Лукашэнка пастанавіў навесці тут парадак да 7 лістапада 2020 года, ператварыўшы прадпрыемства ў сучаснае: «Яно павінна быць як самыя лепшыя мясакамбінаты». Паглядзім — якім хітрым спосабам і якім коштам будзе выкананая мясакамбінатная ўстаноўка кіраўніка краіны.



Фота www.dneprovec.by

**На хвалі экспартных поспехаў апошнімі гадамі ў Беларусі вялікая ўвага надаецца вытворчасці ялавічыны прэміум-класу — мармуровай. Але вынікі пакуль так сабе**

# Мясны фронт

Павел КІРЫЛАЎ

**Вытворчасць мяса ў Беларусі значна пераўзыходзіць унутранае спажыванне, таму ёсць што прадаваць за мяжу. Пераважна гэта ялавічына ды курацына. Кошт пытання па валютнай выручцы апошнімі гадамі — блізу 1 мільярда долараў. У экспарце харчавання гэта другая пазіцыя пасля «малочкі», якая прадаецца за мяжу на суму амаль 3 мільярды долараў. Але ў 2019 годзе мясны экспарт упаў. Прычына — у Расіі.**

Як і ў большасці галінаў эканомікі Беларусі, асноўны напрамак экспарту нашага мяса і мясных прадуктаў — Расія. На тамтэйшы рынак апошнім часам прыпадала больш за 90% экспартных паставак. Крытычна шмат, як бы парадаксальна гэта ні гучала. Асабліва ўлічваючы рэгулярныя гандлёвыя войны паміж Мінскам і Масквой. Мінулы год не стаў выключэннем.

## Мясныя санкцыі

У выніку гэтых войнаў, паводле дадзеных Белстату, па вазе мясны экспарт у Расію за перыяд са студзеня па лістапад 2019 года склаў усяго толькі 81% у параўнанні з аналагічным перыядам 2018-га. Што да грашовага вымярэння, то тут паказчык яшчэ горшы — 78%.

Увоз беларускай мясной прадукцыі Рассельгаснагляд забараняе з непрыемнай рэгулярнасцю. Забараняльныя рашэнні былі прыняты ўжо і ў гэтым годзе. Пад санкцыі трапіла прадукцыя агракамбіната «Нясвіжскі» (ялавічына) — праз паўторнае перавышэнне колькасці мікраарганізмаў, па якой ускосна можна меркаваць пра бяспеку прадуктаў і санітарны стан прадпрыемства, адзначыла расійскае ведамства.

Апрача таго, яно таксама прыпыніла ветэрынарную сертыфікацыю ялавічыны шэрагу іншых прадпрыемстваў пасля выяўлення яе паставак з тэрыторыі Беларусі з нечытэльнымі таўрамі і прыкметамі перамаркіроўкі. Тое, маўляў, «можа сведчыць, што пад выглядам беларускай прадукцыі пастаўлялася прадукцыя трэціх краінаў, у тым ліку з Украіны ды іншых дзяржаў з нестабільнай эпізаатычнай сітуацыяй». Гэта тычыцца мясакамбінатаў у Бабруйску, Паставах, Мёрах, Бярозе, Слуцку.

Пад узмоцнены лабараторны кантроль патрапілі каўбасы Гродзенскага мясакамбінату і вырабы з ялавічыны фірмы «Акмідол», у якіх раней расіяне выявілі антыбіётыкі.

У 2019 годзе падобных выпадкаў, калі расійскі бок выяўляў неналежную якасць беларускіх мяса і мясных выбараў, былі дзясяткі. Эксперты беларускай мясной прамысловасці наракаюць, што Расія выкарыстоўвае ветэрынарныя нормы для падтрымкі сваіх вытворцаў праз абмежаванні для нашых прадпрыемстваў-экспарцёраў. Прычым, калі вывучыць зводкі Рассельгаснагляду, то відавочна, што пад асаблівым кантролем менавіта беларускія пастаўшчыкі. Калі эканамісты кажуць пра гэта як пра наступства паступовага скарачэння Расіяй імпарту мясной прадукцыі, то палітолагі — пра прымус Беларусі такім чынам, як і гандлёвымі войнамі па іншых відах харчавання, да «глыбокай інтэграцыі». Зрэшты, рашэнні расійскі бок быццам бы прымае на падставе лабараторных даследаванняў і вывучэння грузасуправаджальных дакументаў. І час ад часу просіць праводзіць інспекцыі на падазроных прадпрыемствах у нашай краіне.

Так, год таму, узімку 2019 года, Рассельгаснагляд правёў маштабную праверку нашых мясаперапрацоўчых прадпрыемстваў. Галоўная выснова — устанаўленне сувязі паміж павелічэннем колькасці паставак ялавічыны ў Расію з Беларусі і ўвозам яе з Украіны на адрасы беларускіх прадпрыемстваў. То-бок, паводле высноў інспектараў, на большасці правераных прадпрыемстваў насамрэч не ажыццяўляўся працэс перапрацоўкі прадукцыі, а толькі перафасоўка, распілоўка і беспадстаўнае змяненне наймення прадукцыі. А вытворцамі прадукцыі з'яўляліся прадпрыемствы, якія ці адсутнічаюць у Рэестры кампаніяў, атэставаных паводле нормаў ЕАЭС, ці знаходзяцца там, але пастаўкі з іх часова абмежаваныя, ці наогул месцяцца на тэрыторыі Украіны.

**Беларусь заходзіць у Кітай са сваёй сельскагаспадарчай прадукцыяй шпаркімі тэмпамі. Яе экспарт туды ў 2019 годзе павялічыўся больш як на 50%. Прычым асноўны трэнд — акурат пастаўкі мясной прадукцыі**

Што да згадвання Украіны, то палітычнай падкладкі тут няма. Нягледзячы на ваенны канфлікт, гандаль паміж Украінай і Расіяй ідзе вялікім аб'ёмамі. Напрыклад, Украіна ўваходзіць у тройку краінаў разам з В'етнамам і Казахстанам, куды Расія найбольш экспартуе мяса птушкі, і займае першае месца ў расійскім экспарце свініны.

## Накарміць Кітай

Дарэчы, Беларусь — асноўны пастаўшчык ялавічыны ў Расію. Да нядаўняга часу наша доля складала 40% расійскага імпарту гэтага віду мяса. На другім месцы — Парагвай. Яшчэ большая доля Беларусі па ўвозе ў Расію мяса птушкі — 60%, далей ідзе Бразілія. А вось па свініне мы толькі чацвёртыя.

У 2019 годзе некалькі працэнтаў па долі прысутнасці на расійскім рынку нашай ялавічыны і курацыны мы згубілі. Найбольш пацярпелі Барысаўскі мясакамбінат, у адносінах да якога была накладзена забарона на ўвоз мясной прадукцыі ў Расію з лютага па жнівень, і Брэсцкі мясакамбінат, датычна якога санкцыі дзейнічалі з траўня па жнівень.

Што рабіць? Дыверсіфікаваць экспарт. І гэтым кіраўніцтва Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання разам з дырэктаратам мясаперапрацоўчых прадпрыемстваў займаюцца. Асноўны ўхіл робіцца на агромісты рынак Кітая.

Экспарт мяса і мясной прадукцыі наладзіць больш складана, чым таго самага малака і малочных прадуктаў. І пакуль мясны экспарт Беларусі — гэта два дзясяткі дзяржаў, а малочны — больш за паўсотні. Справа ў тым, што ўмовы прасоўвання і сертыфікацыі мяса і мясных вырабаў больш жорсткія. На новых рынках свае санітарна-гігіенічныя правілы, пачынаючы ад забою скаціны. Ёсць і іншая рэгіянальная спецыфіка — стандарт «халяль», калі вытворчасць харчавання павінна быць арганізавана паводле тэхналогіяў так, каб быць дазволенай для ўжывання мусульманамі. То-бок, жывёла павінна быць забітая гуманным чынам па канонах ісламу, выключаецца нейкі кантакт са свінінай — гэта значыць, патрэбныя цэхі паасобнага забою, не дапускаюць розныя дабаўкі. Напрыклад, Саудаўская Аравія вымагае, каб курыца на мяса была забітая ўручную, а пры гэтым патрэбныя вялікія аб'ёмы паставак, каб перакрыць сертыфікацыйныя і транспартна-лагістычныя выдаткі.

Калі Расія ўводзіць санкцыі на тры месяцы ці паўгода, то пазбавіцца доступу на кітайскі рынак у выпадку выяўлення нейкай заразы ў беларускай прадукцыі можна на тэрмін працягласцю мінімум на адзін год. А гэта важнае пытанне ўстойлівасці паставак: адсутнічаў на нейкім рынку працяглы час — цябе ва ўмовах сусветнай канкурэнцыі хутка заменяць.

Зрэшты, пакуль Беларусь заходзіць у Кітай са сваёй сельскагаспадарчай прадукцыяй шпаркімі тэмпамі. Яе экспарт туды ў 2019 годзе павялічыўся больш як на 50%. Прычым, як заявіў пры канцы мінулага года на беларуска-кітайскім бізнес-форуме ў Шанхаі кіраўнік Мінсельгасхарчу Анатоль Хацько, асноўны трэнд — акурат пастаўкі мясной прадукцыі. Яе аб'ёмы павялічыліся ў некалькі дзясяткаў разоў. Значна вырасла колькасць акрэдытаваных на гэта прадпрыемстваў, пададзеныя новыя заяўкі. Дарэчы, Беларусь стала першай у СНД краінай, якой дазволілі пастаўкі ў Кітай ялавічыны. Увогуле, такое права ў свеце атрымалі на сёння толькі паўтара дзясяткі краін. Таму прагноз на 2020 год пазітыўны — працяг тэндэнцыі росту мяснога экспарту.

## Мармуровае мяса

Дарэчы, на хвалі экспартных поспехаў апошнімі гадамі ў Беларусі вялікая ўвага надаецца вытворчасці ялавічыны прэміум-класу — мармуровай. Але вынікі пакуль так сабе. Вытворчасць мармуровай ялавічыны, якая лічыцца каралевай мясных далікатэсаў, запушчана ў нас на ўстаноўку Аляксандра Лукашэнкі: «Трэба сваіх людзей прывучаць да нармальнага мяса і лішкі рэалізоўваць у Маскву».

Мармуровае мяса — гэта мяса з тлушчавымі праслойкамі, якія, раўнамерна размяшчаючыся па кавалку, надаюць яму тэкстурна выгляд мармуру. Падчас прыгатавання стэйкаў гэтыя тлушчавыя палоскі растапляюцца, і мяса робіцца мяккім і духмяным. Мармуровасць мяса дасягаецца праз селекцыю жывёлаў і адмысловае іх кармленне. Вытворцы зарабляюць не толькі на продажы мяса, але і на племяннай скаціне мясных парод з прыгожымі назвамі — напрыклад, абердзін-ангуская.

Праўда, хаця ў Беларусі такія быкі ёсць, але вось мармуровага мяса на прылаўках крамаў не бачна. І ў рэстаранах мармуровыя стэйкі — з імпартнай сыравіны. Прычына — больш выгадна прадаваць племянных быкоў для жывёлагадоўлі, чым рэзаць іх на мяса. Бо мармуровае мяса — гэта не ўся жывёліна, а толькі некалькі цягліц на яе спіне. Усяго 10% ад тушы.

Так што заданне кіраўніка Беларусі не выконваецца: у мясных крамных аддзелах пакуль беларусам прапануецца расійская мармуровая ялавічына.

# Колькі мяса ў каўбасах?

Міраслаў ГАЖЭЦКІ

**Беларусы выдаткоўваюць на мяса шмат грошай. Дый ядуць яго і розных каўбасаў значна больш, чым рэкамендуюць медыкі. Вегетарыянства ці мясаедства — справа кожнага, а «Новы Час» распавядзе пра тое, як арыентавацца ў інгрэдыентах, што пазначаныя на ўпакоўках мясных прадуктаў. І пра міфы, звязаныя з іх вытворчасцю.**



Фота www.artfile.ru

Жыхары Беларусі выдаткоўваць на мяса і мясныя прадукты ажно дзясятую частку сваіх даходаў. Усяго ж на харчаванне траціцца 35% сямейных бюджэтаў. Гэта вельмі шмат. Асабліва калі параўноўваць з большасцю краінаў астатняй Еўропы. Прычына — у памерах заробкаў і коштах. Дакладней, у іх суадносінах. Усяго толькі ад 8% да 12% выдаткоўваць на харчаванне ў такіх краінах, як Люксембург, Вялікабрытанія, Фінляндыя, Германія, Данія. Што да былога сацлагера, то славенцы трацяць на ежу 15% сваіх даходаў, чэхі — 20%, палякі — 25%. Па іншых нашых суседзях статыстыка такая: Латвія — 26%, Расія — 30%, Літва — 31%, Украіна — 50%. Выснова простая: выдаткі на харчаванне ілюструюць узровень жыцця.

## Занадта і нездарова

Мяса займае траціну ад усіх харчовых пакупак беларусаў. Калі ж прааналізаваць катэгорыю «мяса і мясныя прадукты», то з круглых 100 рублёў, якія сярэдняя сям'я штомесяц выдаткоўвае на мяса, больш за ўсё ідзе на каўбасы — амаль 40, мяса птушкі — 20, свініну — 15. Не рэкламуем гэты лад жыцця, але вегетарыянцам і пескатарыянцам (тым, хто трымаецца рыбнай дыеты) быць танней — на рыбу і рыбапрадукты яны выдаткоўваць столькі, колькі мясаеды толькі на свініну.

Сярэднее спажыванне мяса ў Беларусі — 94 кілаграмы на год. У пачатку 2000-х было каля 60 кілаграмаў. І калі раней дыетолагі казалі, што мы не даядаем мяса і мясных прадуктаў, то сёння яны занепакоеныя іх пераяданнем. У нашай Дактрыне нацыянальнай харчовай бяспекі да 2030 года рэкамендаваная норма складае 80 кілаграмаў на душу насельніцтва.

«Новы Час» вывучыў рацыянальныя нормы спажывання харчовых прадуктаў для мужчын і жанчын рознага працаздольнага ўзросту, якія прапануе Навукова-практычны цэнтр Акадэміі навук па харчаванні.

Мужчынам у прафесіях з КФА (каэфіцыентам фізічнай актыўнасці) 1,4 і 1,6 і ва ўзросце 18–29 гадоў рэкамендавана есці, адпаведна, 71 і 80 кілаграмаў мяса на год. Ва ўзросце 30–39 гадоў — 68 і 77 кілаграмаў, а ва ўзросце 40–59 гадоў — 64 і 72 кілаграмы. Для жанчын у такім самым веку і такіх самых прафесіях гэтыя лічбы на 5–7 кілаграмаў меней. КФА 1,4 тычыцца працаўнікоў разумовай працы і вельмі лёгкай фізічнай актыўнасці (гэта, напрыклад, навукоўцы, студэнты, праграмісты, кантралёры, педагогі), а КФА 1,6 — працаўнікоў, занятых лёгкай фізічнай працай (кіроўцы трамваяў і тралейбусаў, упакоўшчыкі, швачкі, медсёстры, работнікі сферы бытавога абслугоўвання, прадаўцы нехарчовых тавараў).

Ёсць КФА 1,9 — гэта працаўнікі сярэдняй цяжкасці фізічнай працы (слесары, кіроўцы аўтобусаў, лекары-хірургі, прадаўцы харчавання, абутнікі, тыя, хто працуе на хімвытворчасці). Тут мужчынам да 40 гадоў адмыслоўцамі рэкамендуецца есці пад 90 кілаграмаў мяса на год, старэйшым — 80. У жанчын гэтых прафесій аптымальная норма ў залежнасці ад узросту вагаецца ад 70 да 80 кілаграмаў.

А вось тым, хто працуе ў прафесіях з КФА 2,2 і 2,5 (у асноўным гэта мужчыны, занятыя ў сельскай гаспадарцы, цяжкой прамысловасці і будаўніцтве), варта есці 95–105 кілаграмаў мяса. Але ў гэтым дыяпазоне праз некалькі гадоў ужо будзе сярэднедушавы паказчык па краіне.

## Смакі Е

Як мы адзначылі, амаль 40% нашых выдаткаў на мясныя прадукты ідуць на пакупку каўбасаў. З пельменямі ды мяснымі кансервамі гэта будзе ўжо палова ад усяго мяснога рацыёну. Пры гэтым якраз датычна каўбасаў і пельменяў у народзе больш за ўсё нараканняў і міфаў. Адразу зняпраўдзім адзін з іх — не, вараная каўбаса не робіцца з паперы! Дакладней, амаль не робіцца. Бо зрэдзьчасу ў варанай каўбасе можна сустрэць дабаўку E466 — карбаксіметылцэлюлозу. Зрэшты, дабавак у каўбасах і начынні пельменяў хапае. І ўсе яны ўзаконеныя.



**На жаль, у адрозненне ад вытворцаў у Еўрасаюзе, у Беларусі на каўбасе ці сасісках не пазначаюць долю мяса ў іх. Нам даводзіцца меркаваць пра мяснасць на смак, і на падставе даверу да той альбо іншай гандлёвай маркі**

«Новы Час» распытаў тэхнолагаў харчовай прамысловасці і дыетолагаў пра тое, як вырабляюць папулярныя на стале беларусаў каўбасы ды пельмені, як іх выбіраць, каб яны былі сапраўды мяснымі, ці варта баяцца ўсялякіх Е-дабавак і навошта гэтыя дабаўкі патрэбныя?

На жаль, у адрозненне ад вытворцаў у Еўрасаюзе, у Беларусі на каўбасе ці сасісках не пазначаюць долю мяса ў іх. Нам даводзіцца меркаваць пра мяснасць на смак, і на падставе даверу да той альбо іншай гандлёвай маркі. Дарэчы, у Расіі дзейнічае стандарт, паводле якога каўбасы падзяляюцца на 5 катэгорыяў у залежнасці ад таго, колькі там мяса. Дакладней, гаворка пра мышачную тканку — гэта мяса без тлушчу ды сухажылляў. Катэгорыя А — ад 80 да 100% мяснай тканкі, Б — ад 60 да 80%. А ў катэгорыі Г — самі разумееце — мяса мізэр. У Беларусі таксама збіраюцца ўводзіць падобны нацыянальны стандарт.

А пакуль можна арыентавацца на гатункі — вышэйшы, першы, другі і безгатункавы варыянт. А, напрыклад, вараную каўбасу бярыце гатунку «экстра». Ён самы мясны, хаця і даражэйшы. Да мяса сюды можна дадаваць толькі да 30% субпрадуктаў кшталту языка ці сэрца. Мінімальная там і колькасць дабавак — напрыклад, фасфатаў для паляпшэння кансістэнцыі (E450-452) ці нітрыту натрыю (E250), стабілізатара колеру. Дарэчы, менавіта дзякуючы гэтаму дадатку каўбасы маюць ружова-мясны (а не шэры) колер. Таксама E250 змагаецца з бактэрыямі — тобок, без нітрыту натрыю каўбаса і непрывабная на выгляд, і небяспечная. Папросту былі б масавыя атручэнні. У малых канцэнтрацыях, якія дазволеныя пры прадукаванні каўбасаў, гэтая харчовая дабаўка шкоды арганізму чалавека не нясе.

Вы маглі таксама чуць пра глутамат натрыю (E621) — узмацняльнік смаку. Паводле некаторых даследаванняў, ён можа выклікаць прывыканне. Кажуць, што можна і аслепнуць. Але гэта калі ўжыць вялізную дозу, але агулам глутамат натрыю не больш шкодны, чым соль.

Каб падоўжыць тэрмін зберагання прадукцыі і зрабіць больш таннай вытворчасць, у каўбасы чаго толькі ні дадаюць да ўласна мяса. Напрыклад, для павелічэння вагі — тую самую ваду, якая ўтрымліваецца згаданымі фасфатамі, а таксама соевым бялком. Іншыя дадаткі — меланж (замарожаная яечная маса), бялковыя прэпараты, малако, крухмал, крупы. Вось якраз выкарыстанне гэтых дадаткаў і абмяжоўваюць патрабаванні на адпаведнасць розным гатункам.

## Круцялі з рэцэптурай

Таксама ў каўбасы са свініны ды ялавічыны для эканоміі гэтай сыравіны вытворцы масава закідаюць мяса птушкі і мяса птушкі механічнай абвалкі. Тобок, у ход ідзе ўсё, што застаецца ад ужо выпатрашанай тушкі. Працэс адбываецца так: каркас курыцы з пазасталай мышачнай тканкай прапускаюць праз прэс і атрымліваюць мясную пасту, у якой прысутнічаюць у тым ліку рэшткі костак, бо ідэальна аддзяліць ад іх мяса немагчыма. Натуральна, што харчовая каштоўнасць такой сыравіны нізкая, смак таксама не надта добры. Пра механічную абвалку вы можаце прачытаць у пераліку інгрэдыентаў у складзе шмат якой недарагой прадукцыі. Забаронены такі складнік толькі ў вырабах з мяса для харчавання дзяцей.

Ляпіць пельмені можна ці паводле СТБ (адмысловага дзяржаўнага стандарту), ці на падставе ТУ (тэхнічных умоваў, якія распрацоўвае сам вырабнік). Паводле дзяржстандарту, пельмені могуць быць трох катэгорыяў — А, Б і В. Вызначаюцца яны па мясным змесціве: А — з доляй мышачнай тканкі ў рэцэптуры больш за 80%, Б — ад 60 да 80%, В — ад 40 да 60%.

Пры прадукаванні пельменяў катэгорыі А патрабаванні вельмі строгія: мяса мехабвалкі быць не павінна, расліннай сыравіны (гародніны) можа быць толькі да 5%, не дапускаецца геннамадыфікаванай сыравіны, араматызатараў, фарбавальнікаў, стабілізатараў, пельмені павінны быць ідэальнай формы і гэтак далей. У пельменях катэгорыяў Б і В могуць прысутнічаць у долі да 10% мяса мехабвалкі і гародніна.

Звычайна беларускія вытворцы працуюць па сваіх ТУ, але мінімуму трэба прытрымлівацца і там: начынне павінна быць не меней за 49% ад вагі пельменя, а сама яна не меней як на 60% складацца з мяса. Таму, калі катэгорыі прадукту не пазначаны, што вялікая рэдкасць, уважліва вывучайце ўпакоўку і складнікі таго, што збіраецеся набыць. Выснова тут простая: чым больш пазіцыяў інгрэдыентаў у складзе мяснога вырабу, тым менш ён якасны і натуральны што да прысутнасці мяса.

То-бок, вытворцы круцяцца з рэцэптурай, каб зрабіць прадукцыю таннейшай. З другога боку, попыт на яе фарміруюць пакупнікі на падставе сваіх даходаў. А даходы ў іх такія, якая эканоміка. А яна, у сваю чаргу, — вынік дзейнасці кіраўніцтва краіны. Вось і выходзіць, што народ мае і ўрад, і каўбасу, якія заслугоўвае.

**Мода на вегетарыянства наўрад ці калі-небудзь стане масавай, а таму звязаны з перапрацоўкай мяса бізнес — выгадная галіна. А якія-ніякія ўменні маюць нават гараджане: адбіўныя і шашлык любяць гатаваць многія. Дый генетычная памяць жывая: шмат у каго продкі гадавалі на вёсцы хатнюю жывёлу ды калолі-смалілі парсюкоў.**

**Як знайсці працу ў мясной прамысловасці — ці наймітам з прыстойным заробкам, ці прадпрымальнікам, запачаткаваўшы ўласную справу?**



Фота www.intex-press.by

# Шлях у мясныя бароны

Сяргей БУЖАЎ



Фота www.fermakomarovo.com

## Ад мясніка да тэхнолага

Мы вывучылі самыя розныя вакансіі ў гэтай галіне, калі трэба непасрэдна працаваць з мясам і мяснымі прадуктамі. Самая хадавая вакансія — абвальшчык мяса. Гэта не абвалка кавалкаў мяса ў паніровачных сухарах, а мясніцкая праца. Трэба аддзяляць мяса ад костак. Вострымі нажамі ды сякерамі. Хутка і максімальна безадходна. Патрэбная не столькі фізічная сіла (гэтая прафесія не лічыцца мужчынскай — жанчын-абвальшчыц шмат), колькі віртуозна-хірургічнае валоданне інструментам, даведзенае да аўтаматызму.

Прапановы ад харчовых цэхаў гіпермаркетаў і мясакамбінатаў для абвальшчыкаў мяса — ад 800 да 1500 рублёў.

Каб працаваць абвальшчыкам, трэба павучыцца ў тэхналагічным каледжы. Зрэшты, адмысловыя стажорскія курсы могуць быць пры мясакамбінатах. Галоўны плюс гэтай прафесіі — заўсёдная запатрабаванасць, прычым вы зможаце працаваць па ўсім свеце. Натуральна, калі не ўразлівыя да крыві і да мёртвай, хай і жывёльнай, плоці. Зрэшты, абвальшчык не забівае скаціну. Мінусы — увесь працоўны дзень на нагах і з рызыкай для здароўя ад вострых нажоў і лёзаў, таксама жывёлы могуць быць пераносчыкамі розных хваробаў, хаця на прадпрыемствах гэта пільнуюць лекары-ветэрынары. А яшчэ магчыма, што працаваць давядзецца пры нізкіх тэмпературах.

У мясных цэхах таксама запатрабаваныя такія працоўныя прафесіі, як жылоўшчык мяса і субпрадуктаў (дастае сухажыллі, вельмі часта вакансія гучыць як зборная — абвальшчык-жылоўшчык мяса), складальнік фаршу, фармоўшчык каўбасных вырабаў, апаратчык тэрмічнай апрацоўкі мясапрадуктаў... А вось на галоўнага тэхнолага мясной прамысловасці з заробкам нават больш за 2000 рублёў, трэба навучацца ў ВНУ. Напрыклад, у Магілёўскім дзяржаўным універсітэце харчавання ці ў Гродзенскім дзяржаўным аграрным універсітэце. У гэтай гродзенскай ВНУ на спецыяльнасці «Тэхналогія мяса і мясных прадуктаў» трэба вучыцца 4 гады, уступныя іспыты на ЦТ — руская або беларуская мовы, хімія і матэматыка. Прахадны бал кожны год расце — летась быў 257.

Займець сваю справу ў мясной вытворчасці — задача няпростая. Апрача спецыялізаваных тэхналагічных ведаў, патрэбны і дастаткова сур'ёзны стартавы капітал. Гаворка пра мінімум некалькі дзясяткаў тысяч долараў. І, вядома, пры існай высокай канкурэнцыі ў жывёлагадоўчай і мясаперапрацоўчай галіне трэба знайсці нішу, дзе яна найменшая, і распрацаваць грунтоўны бізнес-план.

## Як стаць гаспадаром фермы

Дарэчы, наконт грошай: як ужо неаднаразова раіў «Новы Час», варта звяртаць увагу на разнастайныя праграмы падтрымкі малога бізнесу. Прыклад — гісторыя прадпрымальніка з Мядзельскага раёна Аляксандра Гатоўкі з яго трусінай фермай у вёсцы Рудашаны.

Аляксандру 33 гады, родам амаль з тых жа мясцінаў — з Вілейкі, а вырас у пасёлку Нарач. Задумаў адкрыць трусагадоўчую ферму, каб прадукаваць экалагічна чыстае мяса (яно важнае ў рацыёне алергікаў і дзяцей). Спажыўцы попыт ёсць, а канкурэнцыя ў трусагадоўлі не надта высокая. Купіў участак непадалёк ад Нарачы, узвёў збудаванне пад ферму. Сваімі рукамі, бо, апрача эканамічнай адукацыі, мае досвед працы цягам некалькіх гадоў у будаўнічай фірме.

Свой бізнес-план Аляксандр Гатоўка назваў «Безадходная трусіная ферма з уласнай вытворчасцю камбікорму». Камбікорм ён вырашыў вырабляць сам, каб была гарантыя якасці. Уласных грошай, каб так разгарнуцца, не было. Але неяк ён прачытаў у газеце пра інкубатар малога прадпрымальніцтва ў яго Мядзельскім раёне — «Школа сельскага бізнесу». Там кансультуюць свежаспечаных прадпрымальнікаў у сельскай мясцовасці, дапамагаюць скласці бізнес-план, а самае галоўнае — даюць магчымасць з гэтым бізнес-планам выйграць грант Еўрасаюза памерам да 10 тысяч еўра.

Аляксандр Гатоўка паўдзельнічаў у працы гэтага бізнес-інкубатара ў 2017 годзе — і выйграў са сваім праектам грант. Усяго іх атрымалі больш за 20 ініцыятываў з некалькіх раёнаў Беларусі.

Дзякуючы гранту Аляксандр Гатоўка пашырыў гаспадарку і набыў абсталяванне для лініі па вытворчасці ўласнага камбікорму. У прыватнасці, купіў зернедрабілку, гранулятар, ахаладжальнік гранулаў, бункер для змешвання складнікаў камбікорму, дазатар ды іншыя апараты. Прычым, абсталяванне набыў беларускае, і задаволены ім.

Цяпер фермер займаецца безадходнасцю — наладжвае перапрацоўку адходаў жыццядзейнасці трусоў ва ўгнаенні. У перспектыве не толькі для патрэбаў сваёй фермы, але і на продаж. Як і камбікорм. А пакуль Аляксандр Гатоўка жыве з продажу трусінага мяса. Гаспадарку ж ён за год з нечым пашырыў у некалькі разоў — цяпер гадуе 60 прадукцыйных трусіх.

У гутарцы з «Новым Часам» Аляксандр здзівіў тым, што з усёй фермай ад старту спраўляецца адзін. Але ўжо задумваецца пра памочніка. Пра атрыманую грантавую дапамогу на развіццё сваёй справы кажа так: «Калі б не гэтая дапамога, то я хіба б ужо сабраў валізы і з'ехаў з Беларусі. А так вось маю імпэт і планы, хаця і цяжка». Што тычыцца даходаў ад фермы, то на жыццё хапае: «То-бок, каб не сядзець на макаронах ды тушонцы».

**У жывёлагадоўлі патрэбныя спецыялізаваныя веды. А без іх, напрыклад, можна стварыць пельменны міні-камбінат. Гэта можа быць толькі лепка з продажам прадукцыі праз гандлёвыя сеткі або з рэалізацыяй праз уласную кропку гандлю**

Не хочаце пачынаць жывёлагадоўчы бізнес з нуля — купіце гатовую фермерскую гаспадарку. Прапановы ёсць па ўсёй Беларусі, але няшмат. Напрыклад, ва Ушацкім раёне прадаецца за 90 тысяч рублёў ферма, дзе гадуюцца на натуральных кармах самыя розныя жывёлы і птушкі: 70 авечак, 50 свінняў, 150 курыц, 50 качак і гусяў. Там жа можна і жыць — маецца дом з інтэрнэтам.

А ў Мазырскім раёне на продаж выстаўлена страусіная ферма. Кошт — 100 тысяч рублёў за два дзясяткі страусаў і ферму ў лесе на 4 гектары з сажалкай. Ферма — гэта карпусы, дзе месцяцца птушкі, кармавы цэх, забойны цэх з лядоўнямі, інкубатары для яек.

Рэкламуе гаспадар сваю ферму з макраэканамічнай перспектывай: «Насельніцтва планеты хутка расце, і ў гэтым стагоддзі па прагнозах навукоўцаў з-за недахопу кармавой базы чалавецтву прыйдзецца адмовіцца ад вытворчасці мяса жывёлы і перайсці на птушку, бо птушка спажывае менш за іншых жывёл кармоў на кілаграм прыбаўкі. У сабекошце вытворчасці мяса 70% займаюць кармы. Параўнаем курыцу і страуса. Камбікорм для страуса на 15% таннейшы за курыны, бо яны любяць самае таннае зерне — авёс. А атрыманы тлушч, пер'е і скура — звышпрыбытак. Варта задумацца». Эх, мець бы яшчэ 100 тысяч рублёў, каб хоць задумацца...

## Лепім сваю справу

І ўсё ж у жывёлагадоўлі патрэбныя спецыялізаваныя веды. А без іх, напрыклад, можна стварыць пельменны міні-камбінат. Гэта можа быць толькі лепка з продажам прадукцыі праз гандлёвыя сеткі або выраб пельменяў з рэалізацыяй праз уласную гандлёвую кропку на нейкім рынку. Каб не траціцца на ўпакоўку, можна прапаноўваць пельмені рэстаранам і кафэ.

Натуральна, трэба адрозніваться ад гастранамічнага шырспажыву. Напрыклад, пазіцыянаваць свой прадукт як пельмені ручной лепкі з натуральным мясным змесцівам, зробленым з сыравіны фермерскіх гаспадарак. Такім чынам пайшла гаспадыня пельменнага брэнду «Як дома» Анастасія Варанкова, жонка футбаліста Ігара Варанкова, які вядомы заўзятарам гульнёй за шэраг клубаў — ад «Гомеля» да мінскага «Дынама». Сям'я прыехала з украінскага Данбасу. Стартавым капіталам для бізнесу жонкі сталі акурат футбольныя збераженні мужа. Практыка паказвае, што на монапрадукце рабіць бізнес можна толькі нейкі час, таму цяпер у асартыменце фірмы Варанковай — не толькі пельмені з розным мясным начыннем (ад свініны да качкі), але і бліны ды чабурэкі.

Адмыслоўцы, якія дапамагаюць адкрываць бізнес з нуля, кажуць, што пельменны цэх можа акупіцца цягам года. Пачаць магчыма нават з лепкі пельменяў дома. Калі ж у вас будзе асобнае памяшканне пад цэх, то трэба вызначыцца з фарматам лепкі — ручная ці аўтаматычная. Пры першым варыянце вы эканоміце на абсталяванні і арэндзе, бо цэх можна мець невялікі, пры другім — эканоміце на персанале...

І так на ўсіх этапах развіцця ўласнага бізнесу — трэба добра думаць і ўмець лічыць і пралічваць.

# Калі Штаты былі «сухія»

Алег НОВІКАЎ

**Сто гадоў таму ў ЗША пачалася эра «сухога закона», якая працягнулася 13 гадоў. Спецыялісты лічаць, што гэтая старонка гісторыі Злучаных Штатаў яшчэ да гэтага часу цалкам не перагорнутая.**



Фота www.foto-history.livejournal.com

Калі раптам будзеце ў амерыканскім горадзе Балтымар, можаце наведаць гатэль Belvedere de Baltimore. Часткай інтэр'еру бара ў ім з'яўляюцца дзве вялікія, на першы погляд звычайныя, дэкаратыўныя савы — цікавы артэфакт часоў «сухога закона». У 1920-я гады мінулага стагоддзя гэтыя птушкі адыгрывалі вялікую ролю ў крымінальным жыцці горада. Праз механізм бармен прымушаў пудзілаў маргаць, што было спецыяльным знакам для кліентуры. Лыпанне соваў азначала, што ў бары можна набыць алкаголь, а паліцыя ў гэты вечар дакладна заплюшчыць вочы на парушэнне закону.

Падобныя незвычайныя коды былі часткай эпохі, якая распачалася за акіянам 17 студзеня 1920 года. У гэты дзень уступіла ў дзеянне 18-я папраўка да Канстытуцыі ЗША, паводле якой краіна павінна была цалкам перастаць піць. Продаж або транспарціроўка алкаголю забараняліся. Алкаголь можна было ўжываць хіба што па рэцэпце лекараў, якія хутка гэтым скарысталіся. Лічыцца, што за часы «сухога закона» дактары зарабілі на рэцэптах, які давалі пацыенту магчымасць набываць дзеля здароўя віскі, каля 40 мільёнаў долараў.

Увогуле, лабісты забароны алкаголю сцвярджалі, што мера дапаможа не толькі маральнаму здароўю нацыі, але нават знішчыць палітычную карупцыю — так склалася, што подкупы палітыкамі выбаршчыкаў у Злучаных Штатах часцей за ўсё адбываліся ў салунах.

Аднак, як часта бывае, на выхадзе атрымалася трошкі інакш. Сапраўды, спажыванне алкаголю скарацілася прыкладна на 30 працэнтаў. Разам з тым паралельнаназіраліся вельмі негатыўныя з'явы. Забарона алкаголю кепска адбівалася на фармацэ яго спажывання. Паколькі заўсёды існавала рызыка быць арыштаваным за яго ўжыванне, некаторыя янкі намагаліся піць як мага хутчэй і як мага больш. На гэтай глебе людзі хутка станавіліся алкаголікамі і былі гатовыя на любыя злачынствы дзеля запаветнай чаркі. Не дзіўна, што менавіта па слядах «сухога закона» пачалі дзейнічаць клубы Ананімных алкаголікаў.

Аматары забароны алкаголю збіраліся за яго кошт скончыць з міграцыяй, у тым ліку ўнутранай. Звычайна мігранты і афраамерыканцы сядзелі ў салунах, што не падабалася звычайным бюргерам. Забабоны наконт таго, што алкаголь і афраамерыканцы — сінонімы, выкарыстралі расісты. У 1920-я гады амерыканскае грамадства было сведкам буму папулярнасці расісцкага руху «Ку-клукс-клан», актыў якога дазваляў сабе нават уплываць на абранне кандыдатаў на пасаду прэзідэнта.

З іншага боку, былі ад закона і пазітыўныя эфекты. «Сухі закон» зрабіў рэвалюцыю ў музычнай індустрыі. У бары пачалі запрашаць музыкаў, якія гралі джаз. Гэта выклікала інтарэс да новага музычнага стылю, што для мужчынаў. Цяпер мужчынам часцей прыходзілася піць на хатніх вечарынах з удзелам тых жа жанчын. Забарона алкаголю спрыяла крыміналізацыі жанчын, яны атрымалі шанец зарабляць грошы, нелегальна прадаючы алкаголь на вуліцах.

**Цяжка сказаць, калі б амерыканкі атрымалі права галасаваць, каб не рух за «сухі закон». У тым ліку для таго, каб набыць як мага больш адвакатаў цвярозасці ў парламенце, палітыкі пагадзіліся дазволіць кабетам хадзіць на выбары**

ў тым ліку спрыяла інтэграцыі чорных і белых. Упершыню ў гісторыі белая аўдыторыя з задавальненнем слухала чарнаскурых выканаўцаў.

Цяжка сказаць, калі б амерыканкі атрымалі права галасаваць, каб не рух за «сухі закон». У тым ліку для таго, каб набыць як мага больш адвакатаў цвярозасці ў парламенце, палітыкі пагадзіліся дазволіць кабетам хадзіць на выбары. Жанчыны, па зразумелых прычынах, натуральна, галасавалі за забарону зялёнага змія.

Вынікам забароны алкаголю стала і тое, што менавіта ў 1920-я гады жанчына з келіхам віскі перастала лічыцца маргіналкай. Папросту раней кабеты абыходзілі бары, якія лічыліся ўстановамі выключна

Нарэшце, без «сухога закона» Амерыка яшчэ нейкі час дакладна не ведала б, што такое арганізаваная злачыннасць. Упершыню ў гісторыі праваахоўнікам пачалі супрацьстаяць крымінальныя сіндыкаты, якія каардынавалі сваю дзейнасць у маштабах краіны. Стартавым капіталам для мафіі быў продаж кантрабанднага алкаголю або выраб самапальнага. А паколькі абсалютная большасць амерыканскай эліты 1920-х гадоў спажывала алкаголь (паводле тагачаснай прэсы, гэтым прынамсі займаліся 60 працэнтаў парламентарыяў плюс прэзідэнты), крымінал атрымаў выхад на ўладу.

Усё апісанае ў сукупнасці з часам выклікала расчараванне ў «сухім законе» і вялікі запыт на легалізацыю алкаголю, што і пачаў асцярожна рабіць Франклін Рузвельт у 1933 годзе. Аднак гісторыя «сухога закона» ў ЗША ўсё яшчэ не скончылася. У Злучаных Штатах і цяпер хапае людзей, якія заклікаюць паўтарыць эксперымент стагадовай даўніны. Іх бастыёнамі з'яўляюцца гарады і штаты, жыхары якіх, паводле мясцовых законаў, вядуць цвярозы лад жыцця (некаторыя аж з сярэдзіны XIX стагоддзя).

Дзейнічае за акіянам і адпаведная Prohibition Party (Партыя за забарону), кандыдат якой удзельнічае нават у прэзідэнцкіх гонках. Праўда, на апошніх выбарах 2016-га ім быў сабраны не вельмі вялікі ўраджай галасоў — усяго 5600 чалавек па ўсёй краіне прагаласавалі за крымінальную адказнасць за ўжыванне спіртнога. З іншага боку, такі мізэр тлумачыцца тым, што імя кандыдата ад Prohibition Party было ў выбарчых бюлетэнях толькі ў чатырох штатах. У гэтым годзе цвярознікі мараць пра прысутнасць на выбарах у пяці суб'ектах федэрацыі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Гурбангулы Бердымухамедаў



Туркмены толькі-толькі паспелі адысці ад навагодняй выхадкі гаранта, які прымусіў іх цэлую гадзіну слухаць свае музычныя творы. І вось у Аркадага з'явілася новае захапленне. Бердымухамедаў не на жарт зацікавіўся фальклорам.

Цяпер ён выдаў новы ўказ, згодна з якім у першай палове гэтага года ва ўсіх рэгіёнах Туркменістана арганізуюць экспедыцыі па зборы і вывучэнні нацыянальных культурных каштоўнасцяў. У прыватнасці, як удакладняе туркменскі Мінкульт, удзельнікі экспедыцый будуць збіраць звесткі пра звычаі, традыцыі і абрады туркменскага народа, песні і іншыя нематэрыяльныя культурныя каштоўнасці. Адначасова кіраўнік дзяржавы даручыў сабраць і сістэматызаваць прымаўкі і прыказкі, крылатыя выслоўі, а таксама словы, што выйшлі з ужывання, аднак якія, як лічыць туркменскі лідар, з'яўляюцца неацэнным здабыткам краіны.

Атрыманыя ўзоры вуснай народнай творчасці неабходна рыхтаваць да публікацыі, што, па словах Бердымухамедава, «будзе мець не толькі вялікае пазнавальнае значэнне, але і велізарную выхаваўчую сілу».

Зрэшты, калі верыць прэсе, значна больш насельніцтва хвалюе новы імідж гаранта. Кіраўнік, якога штодня паказваюць па тэлебачанні, у жніўні 2018 года раптоўна змяніўся — яго пякуча-чарнявыя валасы пачалі сівець на вачах. Як вынік, улады патрабуюць ад усіх дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў абнавіць партрэты гаранта. Няма сумневаў, што грошы на абноўленыя партрэты (яны каштуюць прыкладна па 10–15 долараў) вылічаць з заробкаў бюджэтнікаў, якім і так рэгулярна даводзіцца здаваць сродкі на разнастайныя афіцыйныя мерапрыемствы.



### Сі Цзіньпін

Старшыня КНР адклаў усе справы, каб не дапусціць распаўсюду пакуль усё яшчэ загадкавай хваробы, што ўспыхнула ў кітайскім 11-мільённым горадзе Ухань напрыканцы мінулага года. Лічыцца, што ўсё пачалося са спажывання нейкай прадукцыі на мясцовым рыбным рынку, якая выклікала смяротную хваробу, падобную да пнеўманіі. 7 студзеня кітайскія спецыялісты ўстанавілі, што ўзбуджальнік хваробы — гэта так званы каранавірус 2019-nCoV.

Пекін вуснамі таварыша Сі запатрабаваў утрымаць вірус у горадзе Ухань, але ў хуткім часе некалькі хворых былі знойдзеныя за межамі населенага пункта. Выпадкі заражэння таксама зафіксаваныя ў Японіі, Тайландзе, ЗША і Паўднёвай Карэі. А брытанская служба ВВС увогуле піша пра тысячы пацыентаў, якімі забітыя кітайскія шпіталі. На базе падобных плётак пачало моцна штарміць азіяцкія біржы. Зараз усе з жахам чакаюць наступстваў святкавання Кітайскага новага года (25 студзеня), які суправаджаецца ў КНР пераездамі людзей па ўсёй краіне. Чакаюць, што Сі Цзіньпін будзе намагацца абмежаваць святкаванні.

### Мікалай Рыбакоў



Вядучая расійская апазіцыйная партыя «Яблоко» і яе лідар вырашылі перахапіць ва ўлады ініцыятыву наконт папраўак у Канстытуцыю, якія афішаваў Пуцін у сваім звароце да парламента. Як вядома, гэтыя папраўкі павінна прыняць вышэйшая палата, але іх змест спачатку трэба зацвердзіць праз шырокія грамадскія дэбаты. Прыняць удзел у абмеркаваннях ды вылучыць уласныя прапановы і вырашыла «Яблоко». Гэтыя прапановы ўключаюць, напрыклад, прамыя выбары ў Савет Федэрацыі, незалежнасць Канстытуцыйнага і Вярхоўнага судоў, замацаванне права на мітынгі, свабоду слова, незалежныя СМІ, прамыя выбары губернатараў, падзел уладаў і гэтак далей.

Іншыя антыпуцінскія сілы слаба вераць у поспех ідэі, таму гатовыя ў асноўным падтрымаць «Яблоко» ў яго патрабаванні правядзення плебісцыту наконт новай рэдакцыі Асноўнага закона, на які будуць вынесеныя некалькі варыянтаў папраўак. Нарэшце, некаторыя (напрыклад, вядомы ліберал Ілля Яшын) збіраюцца вывесці людзей на мітынг супраць «антыканстытуцыйнага перавароту і змяненняў Канстытуцыі».

Мяркуючы па ўсім, апазіцыя не ведае, як сістэмна рэагаваць на праект рэформы. З аднаго боку, аўтарам Канстытуцыі з'яўляецца іх кумір Барыс Ельцын. З іншага — замацаваныя ў Асноўным законе велізарныя паўнамоцтвы прэзідэнта дазволілі Пуціну пабудаваць аўтарытарную вертыкаль улады. Галоўнай інтрыгай рэформы з'яўляюцца будучыя функцыі і паўнамоцтвы такога непрыкметнага раней органа, як Дзяржсавет, які Пуцін можа ўзначаліць пасля сыходу з пасады кіраўніка Расіі ў 2024-м.

# План беларусізацыі–2000, які згарнуў Лукашэнка

Кірыла ПАЗНЯК

**«Закон аб мовах у Беларускай ССР», паводле якога беларуская мова стала адзінай дзяржаўнай у нашай краіне, быў прыняты 30 гадоў таму. Апроч яго быў прыняты і план беларусізацыі ў выглядзе Дзяржпраграмы. Калі б гэта ажыццявілася — ужо б колькі часу паўсюль у нас гаварылі па-беларуску. А дакладней, яшчэ б у 2000 годзе.**




Але з ініцыятывы Аляксандра Лукашэнкі прайшоў рэферэндум 1995 года, па выніках якога было ўсталяванае двухмоўе, відавочна дыскрымінацыйнае ў адносінах да мовы тытульнай нацыі. Згадаем, што пісалася ў «Законе аб мовах», якім быў план беларусізацыі, ды ўявім сабе, як усё магло б выглядаць.

Што цікава: «Закон аб мовах» 26 студзеня 1990 года прыняў Вярхоўны Савет БССР яшчэ 11 склікання, дзе амаль спрэс былі камуністы. Новы парламент, абраны ў выніку першых дэмакратычных выбараў, з Апазіцыяй БНФ у складзе, запрацаваў толькі праз некалькі месяцаў. Ацаніце і вынік галасавання: 332 дэпутаты падтрымалі моўны закон, толькі 27 прагаласавалі «супраць» і 9 — устрымаліся. Як кажуць, былі часіны ды ішлі працэсы...

### «Жыве мова — жыве народ»

Старшынявала ў камісіі, якая распрацоўвала закон, тагачасная віцэ-прэм'ер Ніна Мазай. Яна рабіла і прэзентацыйны даклад на пасяджэнні Вярхоўнага Савета. Памерлая летась Мазай таксама вядомая тым, што ў 1988 годзе ўзначальвала Дзяржаўную камісію па расследаванні злачынстваў у Курапатах, а таксама працавала паслом у Канадзе і Францыі ўжо ў незалежнай Беларусі. У моўную камісію ўваходзілі: паэт і дэпутат Ніл Гілевіч, юрыст, будучы старшыня Цэнтрвыбаркаму падчас першых прэзідэнцкіх выбараў Аляксандр Абрамовіч, міністр культуры Яўген Вайтовіч, міністр адукацыі Мікалай Дзямчук, тады сакратар Мінскага гаркаму кампартыі Беларусі, а затым міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка, мовазнаўцы — напрыклад, будучы дэпутат і пасол у Германіі Пётр Садоўскі.

«Закон аб мовах» пачынаўся пранікнёнай прэамбулай:

«Мова — не толькі сродак зносін, а і душа народа, аснова і важнейшая частка яго культуры. Жыве мова — жыве народ. Кожная мова, яе літаратурная, жывая мясцовая і гістарычная разнавіднасць — неацэнны скарб, які належыць не аднаму народу, а ўсяму чалавецтву.

Гонар і абавязак усіх — шанаваць родную мову, садзейнічаць яе развіццю і росквіту, паважліва ставіцца да моў іншых народаў.

У Беларусі здаўна жывуць людзі розных нацыянальнасцяў, гучаць розныя мовы. Аднак у апошнія гады сфера ўжывання мовы карэннага насельніцтва Беларусі, якое дало ёй імя і гістарычна складае асноўную частку жыхароў рэспублікі, значна звузілася, пад пагрозай апынулася само яе існаванне. Паўстала неабходнасць аховы беларускай мовы на дзяржаўна-этнічнай тэрыторыі. Такую сістэму аховы дазваляе стварыць толькі наданне беларускай мове статусу дзяржаўнай мовы Беларускай ССР.

Статус беларускай мовы як дзяржаўнай не закранае канстытуцыйных правоў грамадзян іншых нацыянальнасцяў карыстацца рускай ці іншымі мовамі. Усе грамадзяне Беларускай ССР, незалежна ад нацыянальнасці і роднай мовы, карыстаюцца роўнымі правамі і маюць роўныя абавязкі перад дзяржавай».

У новай рэдакцыі моўнага закона ад 1998 года ў выніку рэферэндуму–1995 гэтую прэамбулу прыбралі, а паўсюль для ўжытку моваў у розных сферах жыццядзейнасці панапісвалі фармулёўку «на беларускай і (або) рускай мове». Гэта падступнае «або» і зрабіла сваю русіфікацыйную справу. Хаця ў 1990 годзе здавалася, што «Закон аб мовах» будзе незваротным у справе Адраджэння.

У тым законе беларуская мова абвяшчалася адзінай дзяржаўнай мовай, пры гэтым гарантавалася забеспячэнне права «свабоднага карыстання рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін». Дзеля выканання закона Вярхоўны Савет выдаў пастанову аб парадку ўвядзення моўнага закона ў дзеянне з 1 верасня 1990 года. А незадоўга да гэтага, 27 ліпеня, была прынятая Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР, якая дадала адраджэнцам натхнення і ў справе пашырэння ўжытку мовы.

### 10 гадоў на беларусізацыю

Былі вызначаныя розныя тэрміны для паступовага ўкаранення палажэнняў «Закона аб мовах» ва ўсіх сферах грамадскага жыцця — працягласцю для выканання ад 3 да 10 гадоў. Падрабязна план быў распісаны ў пастанове Савета міністраў ад 20 верасня 1990 года за подпісам Вячаслава Кебіча «Аб Дзяржаўнай праграме развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР». Была свая ўзнёсла-трывожная прэамбула і ў гэтым дакуменце:

«Адна з галоўнейшых задач у развіцці беларускай культуры — клопат пра беларускую мову, якая павінна заняць сваё дастойнае месца ў жыцці беларускага народа. Рэзкае звужэнне сфер функцыянавання беларускай мовы прывяло да страты ў значнай часткі насельніцтва пачуцця каштоўнасці нацыянальнай культурнай спадчыны, да дэфармацыі нацыянальнай самасвядомасці. Сёння ж роля беларускай мовы ў культурнай, грамадска-палітычнай, гаспадарчай сферах неправамерна зніжана, што выклікае занепакоенасць грамадзян Беларускай ССР».

**У тым законе беларуская мова абвяшчалася адзінай дзяржаўнай мовай, пры гэтым гарантавалася забеспячэнне права «свабоднага карыстання рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін»**

Самы працяглы час — да 2000 года — вызначаўся на ажыццяўленне беларусізацыі ў некаторых прафесійных сферах і ў маштабных справах. Напрыклад, судаводства павінна было весціся па-беларуску або на нацыянальнай мове большасці насельніцтва пэўнай мясцовасці. Пры гэтым агаворваўся такі нюанс: «Пры разглядзе ў судах крымінальных і грамадзянскіх спраў асобам, якія прымаюць удзел у справе і не валодаюць мовай судаводства, забяспечваецца права азнаямлення з адпаведнымі матэрыяламі, удзел у судовых дзеяннях праз перакладчыка, права выступаць у судзе на роднай мове».

Да 2000 года трэба было «колькасць вучняў, якія навучаюцца на беларускай або іншай мове, прывесці ў адпаведнасць з нацыянальным складам насельніцтва рэспублікі». На беларускую мову ў гэты тэрмін павінна было перайсці навучанне ў ПТВ і ВНУ. А вось «большасць дашкольных устаноў у гарадской і сельскай мясцовасці на беларускую мову выхавання і навучання» лагічна меркавалася перавесці раней — да 1995 года. Цягам 1990–1995 гадоў планавалася «штогод перападрыхтоўваць і павышаць кваліфікацыю па беларускай мове не менш чым 40 тысяч настаўнікаў, выкладчыкаў прафтэхвучылішч, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў, а таксама работнікаў дашкольных і пазашкольных устаноў».

План на тэрмін 3–5 гадоў тычыўся ўстанаўлення практыкі прыняцця і публікацыі на беларускай мове актаў міністэрстваў і ведамстваў, а таксама выканання на ёй тэкстаў на пячатках, штампах, штэмпелях, афіцыйных бланках дзяржаўных устаноў, грамадскіх арганізацый і прадпрыемстваў. А кіраўнікі павінны былі авалодаць беларускай і рускай мовай у аб'ёме, неабходным для выканання службовых абавязкаў. Прычым, ужо ў 1990 годзе рыхтавалі «пералік пасад, для заняцця якіх патрабуецца веданне беларускай мовы». Для вывучэння ці ўдасканальвання ведаў па беларускай мове арганізоўваліся спецыяльныя курсы для розных катэгорый работнікаў.

У першыя ж гады планавалася «забяспечыць афармленне тапанімічных назваў (населеных пунктаў, адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, вуліц, плошчаў, рэк і да т.п.), назваў устаноў, прадпрыемстваў і арганізацый, а таксама выданняў інфармацыйнага і рэкламнага характару на беларускай мове, а пры неабходнасці — на беларускай і рускай мовах». Апрача таго, таварныя знакі, сродкі маркіроўкі тавараў, этыкеткі, інструкцыі аб карыстанні таварамі павінны былі афармляцца на беларускай мове, а для тавараў, прызначаных на вываз за межы Беларускай ССР, — на беларускай, рускай мове або мове заказчыка. Міністэрству культуры БССР сумесна з Дзяржаўным камітэтам БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні, Саюзам кінематаграфістаў БССР давялі з 1991 года «забяспечыць стварэнне, дубляванне і паказ мастацкіх і навукова-дакументальных фільмаў на беларускай мове».

### Давайце без «або»

Глядзіце самі, паступовым ці радыкальным быў план па беларусізацыі 1990 года. Аўтар гэтых радкоў у пачатку 1990-х гадоў быў падлеткам, але выдатна памятае, як бацька прыходзіў з працы ў Міністэрстве рэсурсаў (было такое) і распавядаў аб вядзенні дакументацыі і планёрках па-беларуску: «Некатарым — так, складана. Пацеюць, але стараюцца. І цікава, і нешта прачынаецца на генным узроўні. Ніхто не ные!»

А то некаторыя, як кіраўнік краіны, любяць паўтараць «страшылку», што ў пачатку 1990-х гадоў у Беларусі верхаводзілі нацыяналісты, якія «рускіх пасадзілі на чамаданы». І незабыўнае ад Аляксандра Лукашэнкі: «Людзі, якія размаўляюць на беларускай мове, не могуць нічога рабіць, апрача як размаўляць на ёй, таму што па-беларуску нельга выказаць нічога вялікага. Беларуская мова — бедная мова. У свеце існуюць толькі дзве вялікія мовы — руская і англійская». Канешне, казаў Лукашэнка і добрае пра беларускую мову, але ў любым разе лепей было б не гаварыць пра яе, а гаварыць на ёй, падаючы асабісты прыклад. Тым болей, маючы такі файны артыкуляцыйны апарат. Аднак яго публічныя выступы па-беларуску — вялікая рэдкасць, дый яны з паперкі.

На заканадаўчым узроўні беларусізацыю можна пачаць з прыбірання ў моўным законе дыскрымінацыйнага на практыцы «або», каб сапраўды, калі ўжо маем білінгвізм, беларуская і руская мова мелі аднолькавыя правы і ўмовы ўжытку.


Магіла 23 чырвонаармейцаў у в. Язна, зробленая міжваеннымі польскімі ўладамі


Могілкі Першай сусветнай на самай лініі мяжы з БССР


Калекцыя капаўца Юзафа Нагліка

# Захаваць для будучыні. Як памежнікі КАП зберагалі гістарычную спадчыну


Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У 1930-я гады польскі Корпус аховы памежжа (КАП) быў адной з самых добра падрыхтаваных службаў Польшчы. Гэта тычылася як вайсковага складніку, так і грамадска-палітычнага, і культурнага. Перад памежнікамі ставіўся шэраг задач, з якімі, збольшага, яны спраўляліся. Адным з такіх «выклікаў», як ні дзіўна, было захаванне гісторыка-культурнай спадчыны паўночна-ўсходніх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай, а таксама ўпарадкаванне старых вайсковых пахаванняў у памежных раёнах.**

## Ўратаваць гістарычныя артэфакты

Тэрыторыя, на якой неслі службу капаўцы, сапраўды была малавывучанай гісторыкамі і археолагамі. У Заходняй Беларусі ў 1920–1930-я гады польскія спецыялісты праводзілі даследаванні (у тым ліку і археалагічныя), аднак гэтага было недастаткова. Таму польскія ўлады спадзяваліся на дапамогу тых, каго, здавалася б, справа аховы гісторыка-культурных каштоўнасцяў не тычылася.

Напрыклад, у польскіх вайсковых выданнях 1930-х гадоў часта публікаваліся матэрыялы, у якіх аўтары заклікалі польскіх вайскоўцаў, якія служылі «на крэсах», уважліва ставіцца да старажытных знаходак і «ратаваць» іх. «Некалькі дзён таму старшы сяржант Ян Мільчарэк даслаў у Аддзел выхавання жаўнераў камандавання КАП пару старых срэбных манет і прыгожа выканаую з гліны трубку (якая паходзіла з XVI–XVII стагоддзя) з просьбай перадаць іх у музей. Гэтыя рэчы Мільчарэк набыў у мясцовых сялян, якія выкапалі іх на ўласных зямельных надзелах падчас гаспадарчых прац. Трэба адзначыць высокі ўзровень грамадзянскай свядомасці старшага сяржанта Мільчарка, які не пашкадаваў уласных сродкаў, каб уратаваць каштоўныя для даследчыкаў прадметы. [...] Ахова знойдзеных старажытных прадметаў ад знішчэння з'яўляецца нашым абавязкам, таму што ўсё гэта — гістарычныя артэфакты, якія нагадваюць пра нашых продкаў, што у старажытнасці абаранялі межы Рэчы Паспалітай», — падкрэслівалася ў адной з публікацый.

Камандзірам стражніц рэкамендавалася праводзіць з памежнікамі заняткі, на якіх, акрамя гісторыі і культуры, трэба было расказваць і пра неабходнасць захавання гістарычнай спадчыны. «Падафіцэры КАП, якія заўсёды ўважліва сочаць за ўсім, што адбываецца навокал, што робіцца на тэрыторыі іх участка, павінны ахоўваць знойдзеныя ў зямлі рэчы і не дапускаць траплянне іх у непатрэбныя рукі. У мясцовага насельніцтва, якое жыве на памежжы, знаходзіцца шмат прадметаў старажытнага паходжання, якія ім перадалі продкі, ці яны самі знайшлі падчас сельскагаспадарчых работ. У большасці выпадкаў мясцовыя сяляне не ведаюць, якую вартасць маюць гэтыя прадметы для навукі. Дадзеныя рэчы павінны трапіць у грамадскае выкарыстанне, тобок у музей [...] Падафіцэр, які даведаецца пра існаванне такіх старажытнасцяў у неадпаведных руках, павінен адразу паведаміць свайму кіраўніцтву. Ён і сам можа набыць гэтыя рэчы, пры гэтым трэба па магчымасці вызначыць месца і абставіны, пры якіх быў знойдзены дадзены прадмет. А калі падафіцэр КАП перадасць такі прадмет у музей, то ён паступіць як сапраўдны грамадзянін-патрыёт і заслужыць павагу з боку грамадства, бо дапаможа пашырыць веды пра гісторыю жыцця нашых продкаў», — адзначалася ў іншым артыкуле.

Зразумела, што «чорнакапальнікаў», якія карысталіся персанальнымі металадэтэктарамі, у 1930-я гады ў Заходняй Беларусі не было. Большасць старажытных рэчаў, скарбаў, артэфактаў людзі знаходзілі выпадкова. Часта жаўнеры КАП былі, па-сутнасці, галоўнымі прадстаўнікамі польскіх уладаў у вёсках і населеных пунктах, якія знаходзіліся непасрэдна на мяжы з БССР (асабліва на адрэзаным ад «вялікай зямлі» падчас паводак Палессі). У такіх выпадках шмат залежала ад узроўню «гістарычнай падрыхтаванасці» падафіцэраў КАП і іх падначаленых.


На стражніцы КАП

Відавочна, адукацыя і цікавасць да старажытнасці дапамаглі сяржанту КАП Юзафу Нагліку сабраць някепскую калекцыю старых манет, сярод якіх былі як «медзякі», так і сярэбраныя рублёвыя манеты царскай чаканкі XVIII стагоддзя. У 1939 годзе падафіцэр ахвяраваў сваю калекцыю на фонд нацыянальнай абароны. Зразумела, што тады было не да калекцыянавання. На коне быў лёс польскай дзяржавы.

## Памяць пра невядомых жаўнераў

Асобнай сферай захавання гісторыка-культурнай спадчыны на тэрыторыі паўночна-ўсходніх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай, якой, у тым ліку, займаліся памежнікі КАП, была ахова старых пахаванняў і могілак.

Сёння мы часта абураемся, калі даведваемся, як сучасныя будаўнікі знішчаюць курган ці стары будынак. Але падобныя выпадкі былі, на жаль, і ў 1930-я гады. «Нядаўна ў Кругавіцкай гміне Лунінецкага павету Палескага ваяводства адбыўся наступны выпадак. Павятовы дарожны інспектар пан С. Стахурскі, што перабудоўваў дарогу Ахарэвічы — Шашкі, каб яе выпрастаць, вымушаны быў праводзіць працу ў невялікім лесе, які знаходзіўся побач са старой дарогай. У гэтым лесе ён убачыў 30 курганоў. Ён зразумеў, што гэта вайсковыя магілы, відавочна, вельмі старыя, бо на некаторых раслі дубы таўшчынёй у метр. Так, як адзін з курганоў ляжаў на трасе новай дарогі, пан Стахурскі вырашыў яго раскапаць. У ім было знойдзена некалькі чарапоў і косткі, сякера, металічныя ўпрыгожванні лука і стрэл і два іржавых кавалкі жалеза, прызначэнне якіх немагчыма было вызначыць. Знойдзеныя артэфакты адправілі ў старосства. І такі выпадак — не адзіны. Да камандзіраў стражніц часта звяртаюцца мясцовыя сяляне і паведамляюць, што на полі, падчас ворыва, знайшлі нейкія косткі, элементы ўзбраення старажытных рыцараў, манеты, трубкі, нажы і гэтак далей», — адзначалася ў адным з польскіх выданняў за 1937 год.

Зразумела, што археалагічнымі экспедыцыямі па старых курганах капаўцы не займаліся. А вось ахова вайсковых пахаванняў часоў Першай сусветнай і польска-бальшавіцкай войнаў была іх пачэсным абавязкам.

У заходніх абласцях сучаснай Беларусі па сённяшні дзень на шматлікіх нямецкіх і расійскіх могілках перыяду Вялікай вайны можна сустрэць польскія надпісы, што пад крыжом спачывае невядомы жаўнер нямецкага, расійскага ці бальшавіцкага войска.

Часцяком у 1920–1930-я гады такія пахаванні прыводзілі да ладу менавіта капаўцы. «Калі жаўнеры Корпуса аховы памежжа 13 гадоў таму займалі дзяржаўную мяжу, іх увагу прыцягнулі шматлікія магілы невядомых жаўнераў, якія загінулі падчас сусветнай і польска-расійскай вайны. Магілы гэтыя былі раскінутыя па ўсім памежжы і часцяком знаходзіліся па-за мясцовымі могілкамі, побач з дарогамі, у глыбіні лясоў, на самотных пагорках, лясных палянах. Часам такія магілы аточаны прымітыўнай агароджай, пры гэтым адзінай пазнакай магілы з'яўляецца невялікі курган. Кожная з гэтых магіл мае крывавую і гераічную гісторыю, якую захоўваюць у памяці толькі мясцовыя жыхары. Пасля таго, як да аховы мяжы прыступіў КАП, той ці іншы афіцэр ці падафіцэр пачаў збіраць інфармацыю пра гэтыя магілы, пра людзей, якія ў іх пахаваныя. Яны даведваліся пра трагічныя абставіны, пры якіх наступіла смерць невядомага жаўнера. Вось адзін загінуў у баі, які адбыўся тут недалёка, іншага ворагі расстралялі пры невядомых абставінах. А ёсць і такія пахаванні, якія аточвае панурая таямніца. [...] У некаторых мясцовасцях адбыўся перанос парэшткаў на могілкі. Там пабудаваны новыя агароджы, пастаўленыя моцныя дубовыя крыжы, на якіх вісяць таблічкі. На кожнай магіле ляжаць кветкі», — падкрэслівалася ў адной з тагачасных публікацый.

Менавіта дзякуючы той працы, якую правялі, у тым ліку, і капаўцы на даваеннай савецка-польскай мяжы, шматлікія жаўнерскія пахаванні дайшлі да нашых дзён. Больш таго, дзякуючы працы польскіх памежнікаў у гэтай сферы мы ведаем абставіны гібелі таго ці іншага царскага, нямецкага, бальшавіцкага ці польскага жаўнера. На вялікі жаль, у даваенны час у БССР падобнай працы ніхто не праводзіў, а старыя, несавецкія, магілы жаўнераў прыходзілі ў занядпад.

Сёння, у XXI стагоддзі, трэба выкарыстаць досвед даваенных польскіх памежнікаў і захаваць спадчыну, якая засталася ўжо пасля іх — жаўнераў польскага КАП і савецкай памежнай аховы. Бо гісторыя даваеннай савецка-польскай мяжы ў Беларусі — унікальны сюжэт у агульнаеўрапейскім маштабе.

**Здымкі з архіву аўтара**

# «Тут цёплая мова гучыць»

**Па гарызанталі:** 1. ... Сцяпанавіч. Імя бацькі беларускага пісьменніка Леаніда Дайнекі. 28 студзеня — 80 гадоў з дня нараджэння пісьменніка. Ён нарадзіўся ў вёсцы Змітраўка Клічаўскага раёна, у сялянскай сям'і. 3. «Тут цёплая мова гучыць, // Тут добрыя ... жывуць». З верша паэта Леаніда Дайнекі «Паедзем дамоў на Пятра». 5. «... ваўкалака». Гістарычны раман празаіка Леаніда Дайнекі пра старажытную Беларусь, за які, як і за раман «Меч князя Вячкі», ён атрымаў Дзяржаўную прэмію імя Кастуся Каліноўскага; за цыкл гістарычных раманаў ён быў таксама ўзнагароджаны прэміяй Валянціна Пікуля з уручэннем залатога медаля. 8. «Якія яны, мае ..., // Дняпроўскія плытагоны?» З першага беларускамоўнага верша паэта «Прадзеды», які быў надрукаваны ў 1963 годзе ў газеце «Чырвоная змена». 9. Цвёрды мінерал. 10. «Шуміць ледзяная ... // Палярнай ноччу сляпой». З верша «Калі б вы былі жывыя», які паэт прысвяціў свайму дзядзьку Паўлу, што загінуў у сталінскіх лагерах. 12. Недарэчны выпадак. 14. Прыкмета, якасць. 16. Найдрабнейшая часцінка хімічнага элемента. 17. Старадаўняя калючая зброя. 19. Падлетак (гістарычнае). 21. Ежа з дробна пасечанай гародніны. 22. «Вечнае ...». Зборнік вершаў Леаніда Дайнекі (1985 год). 26. Зімні ... глыбокі — летам хлеб высокі (прыказка). 27. «Усё было — і веліч і слава, // Магдэбургскае ...». З верша «Беларускія галасы». 28. «Бяссмертныя душы Сымона, Алены // Струменяць з нябёсаў ...». З верша «Чырвоны касцёл».




**Па вертыкалі:** 1. «Людзі і ...». Першы раман празаіка Леаніда Дайнекі (1977 год), які ён прысвяціў станаўленню беларускай дзяржаўнасці ў 1917–1919 гадах. 2. Гібрыд аднагорбага і двухгорбага вярблюда. 3. На ... загрымела — будзе холад (прыкмета). 4. Процілегласць пераду. 5. Старажытнаскандынаўскае сказанне. 6. Чалавек, які праявіў сябе ў якой-небудзь грамадскай дзейнасці. 7. Адказны ... . Пасада, якую займаў Леанід Дайнека ў часопісе «Маладосць», дзе ён працаваў у 1972–1989 гадах. 10. «Мабыць ад таго і слова "краты" // Нездарма на ўвазе меў народ, // Ёміста назваўшы партакратамі // Крымінальна-палітычны ...». З верша беларускага пісьменніка Міколы Аўрамчыка, якому 14 студзеня споўнілася б 100 гадоў. 11. Варотцы. 13. «Я прыйшоў к табе, ... Міндоўга, // У грымоты суровых дарог». З верша Леаніда Дайнекі «Навагрудак». 15. «Ткуць мяцеліцы прадзівам тонкім // Белым-белае ...». З верша Ніны Аксёнчык «Вецер стыне ў голасе звонкім». 18. «Але Каліноўскага ... чуцен, // І гавару я: // — Ты будзеш жыць». З верша Леаніда Дайнекі «Песня белага снегу». 20. Народны паэт-пясняр на Каўказе. 22. Мураваны будынак. 24. Прадукты харчавання. 25. Беражы ... у моцны мароз (прыказка).

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Зімовыя перапевы» (НЧ №48 ад 27 снежня):**

**Па гарызанталі:** 1. Ход. 5. Тодар. 8. Саветолаг. 10. Снег. 11. Канькі. 12. Дабро. 14. Сорт. 15. Шлем. 18. Альпы. 20. Тройка. 22. Скол. 24. «Ваўчаняты». 25. Завея. 26. Азы.

**Па вертыкалі:** 1. Хрыстос. 2. Пан. 3. Неба. 4. Сані. 6. Охра. 7. Рыгор. 9. Беларусь. 13. Батлейка. 16. Махляры. 17. Мароз. 19. Поле. 20. Твар. 21. Коні. 23. Сто.

# БагатаДата

**Вы ведаеце, што, паводле адной з версій, прататыпам галоўнага героя рамана Эрнэста Хемінгуэя «Па кім звоніць звон» мог быць беларускі партызан? І што на тыдні будзе Міжнародны дзень без інтэрнэту? Гэтыя і іншыя цікавосткі — у нашым аглядзе.**

## 25 студзеня

**Міжнародны дзень мытніка.**

**1955.** У вёсцы Кузьмічы Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці нарадзіўся архітэктар і мастацтвазнаўца Аляксандр Лакотка. Аўтар распрацоўкі Генплану Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту, цяпер дырэктар Цэнтру даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Акадэміі навук.

## 26 студзеня

**1990.** Вярхоўны Савет прыняў Закон «Аб мовах у Беларускай ССР». Беларуская мова была абвешчана адзінай дзяржаўнай. Сітуацыю змяніў ініцыяваны Аляксандрам Лукашэнкам рэферэндум 1995 года, пасля якога гэты статус быў скасаваны і пачалася русіфікацыя.

## 27 студзеня



**Міжнародны дзень без інтэрнэту** (адзначаецца ў апошнюю нядзелю студзеня).

**1935.** У сяле Падсадкі на Львоўшчыне ва Украіне нарадзіўся беларускі оперны спявак Зіновій Бабій. У 1960-х і 1970-х гадах — саліст Опернага тэатра. Таксама меў канцэртны рэпертуар, гастраляваў ад Францыі да Канады.

**1940.** У Краснадарскім краі Расіі нарадзіўся Анатоль Кастэнка, міністр абароны Беларусі ў 1994–1995 гадах.

## 28 студзеня

**Міжнародны дзень абароны персанальных даных.**

**1895.** У вёсцы Навасёлкі Барысаўскага раёна на Міншчыне нарадзіўся Аляксандр Хацкевіч, дзяржаўны дзеяч БССР. У яго кар'еры былі такія пасады: прадстаўнік урада БССР пры ўрадзе СССР, старшыня Нацыянальнай камісіі пры ЦВК БССР, на гады дзейнасці якой на чале з Хацкевічам прыпаў пік беларусізацыі, наркам фінансаў БССР. Улетку 1937 года арыштаваны ў Маскве і этапаваны ў Мінск, быў абвінавачаны ў прыналежнасці да «Арганізацыі правых» і асуджаны на смяротнае пакаранне.

**1940.** У вёсцы Змітраўка Клічаўскага раёна на Магілёўшчыне нарадзіўся пісьменнік Леанід Дайнека. Вядомы гістарычнымі раманамі «Меч князя Вячкі» і «След ваўкалака», а таксама фірмай па выпуску алкаголю пад брэндам «Крамбамбуля».

## 29 студзеня

**1720.** Дзесьці пад Віцебскам нарадзіўся беларускі і польскі драматург Францішак Багамолец. Стварыў каля двух дзясяткаў камедыяў, напісаў лібрэта да першай польскай оперы «Ашчасліўленая беднасць», пастаўленай у 1778 годзе ў Варшаве. Збіраў беларускія прыказкі і прымаўкі.

## 30 студзеня

**1895.** У вёсцы Мышкавічы Кіраўскага раёна нарадзіўся Кірыла Арлоўскі, удзельнік Грамадзянскай вайны ў Іспаніі, выведнік-дыверсант, адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Другую сусветную вайну. Пасля яе быў старшынёй вядомага калгасу «Рассвет». Арлоўскі — прататып галоўнага героя савецкага фільма «Старшыня», а таксама, паводле адной з версій,



прататып галоўнага героя славутага рамана Эрнэста Хемінгуэя «Па кім звоніць звон».

## 31 студзеня

**Міжнародны дзень ювеліра.**

**1975.** У Мінску нарадзіўся адзін з самых папулярных сучасных беларускіх літаратараў Альгерд Бахарэвіч.



Творы: «Дзеці Аліндаркі», «Белая муха, забойца мужчын», «Сабакі Еўропы», «Мае дзевяностыя».

## 1 лютага

**1920.** У Смаленску выйшаў першы нумар беларускамоўнай газеты «Савецкая Беларусь». Гэта не тая, што выходзіць сёння як «СБ. Беларусь сегодня». «Савецкая Беларусь» друкавалася да 1933 года.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347 52 81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова № 126

Падпісана да друку 24.01.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.